

Шукайце новае ў ч/б

*Новыя лязэрныя прынтэры*

| *Samsung ML-1210* | *Samsung ML-1250* |
|---|---|
| • *12 стар./хв.* | • *12 стар./хв.* |
| • *600 x 600 dpi* | • *1200 x 600 dpi* |
| • *2 порты LTP/USB* | • *2 порты LTP/USB* |
| • *эканомія тонэру да 30%* | • *эканомія тонэру да 30%* |
| • *3 гады гарантыі* | • *магчымасьць друку ў DOS* |
| | • *3 гады гарантыі* |



**Выбірайце на доўгі час!**

| | | |
|---|---|---|
| **СП "НТТс"** | вул. Рэвалюцыйная, 7/11 | т.: 229 29 99 |
| **IVEN** | пр. Скарыны, 98, офіс 108 | |
| **ИНКАРТ** | вул. Панамарэнкі, 41а, офіс 4 | т.: 252 27 26 |
| **Компьютех** | вул. Чапаева, 5, п. 327 | т.: 284 88 99, 236 31 74 |
| **Инфорегистр** | вул. Чапаева, 5, п. 44 | т.: 236 40 39, 210 09 60 |
| **Конструктив** | вул. Сурганава, 13, п. 135 | т.: 284 20 41, 284 20 54 |
| **Интеркомпьютерсервис** | вул. Серафімовіча, 11, п. 512 | т.: 230 64 01, 289 14 88 |

IT-компания №1 в мире

по рейтингу "Business Week"

SAMSUNG DIGITall

everyone's invited™

www.samsung.ua






```
=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-
From:     studumka <studumka@tut.by>
To:            ???????? <???????@??????>
Subject: ##///*
Files:    <none>
--=============================================-----
```

Вочы. Пустыя, беспрасьветна-бяздонныя, без аніводнай прыкметы жыцьця. Вочы могуць глядзець куды заўгодна - у сьветлую будучыню, у твар наведніка, у самае яго сэрца, - але насамрэч у бездань Харону. Яны нежывыя, як і сама пастава цела. Яно застыла ў штучным руху, яго жэсты не напоўненыя ніякім сэнсам. Нават сьняжынкі, якія ляніва апускаюцца на галаву скульптуры (ці помніка, бюста) і ўтвараюць невялічкія гурбы, пацьвярджаюць: шанцы на тое, каб паверыць, што ўзор каменнай пластыкі - адна з самых яркіх праяваў культавасьці ў гісторыі чалавецтва, - таюць пры бліжэйшым знаёмстве з музэямі і іншымі адкрытымі для наведваньня "кірмашамі славалюбства". Культ - пік чалавечай пыхі. Маліцца на свае гіпэртрафаваныя звычкі і слабасьці, дуркі і недалёкасьць можа толькі слабы і залежны ад абставінаў homo, які штосэкундна баіцца згубіць якое-кольвек пастаянства. Толькі ён лепіць культ сваімі рукамі, выгадна прадае яго і ўсё гэта называе "культ-урнасьцю" (прыслухайся - у словах хаваецца іх патаемны сэнс...).

Тым больш цікава, да якой ступені абвастрылася хвароба і якія формы набыла апошнім часам. Ці такія ж пуставокія героі, ці гэтак жа саркастычна пабліскваюць на іх напудраных (запыленых?) насах ашалелыя кодлы сьнегу? Варта толькі ўчытацца.

```
=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-=-
```



## знойдзеш нас у гэтых месцах

- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31)


**Студэнцкая Думка № 11–12 (83–84) 2002 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group

**Дызайн вокладкі** Аляксандар Канавалаў

**Фота на вокладцы** © WESTRECORDS, 2002

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DУМКА"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.



Правамі на матэрыялы валодае рэдакцыя часопіса "Студэнцкая думка". Пры перадрукоўцы матэрыялаў спасылка абавязковая.
Тэксты, якія не замаўляліся, рэдакцыя не вяртае.



Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 80 г/м²
Падпісана ў друк 18.12.2002 г.
Замова № 454
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ




КАРОЛЬ ПАМЁР?

6-9




ВНУ І "НАЛ"

34-37



20-23



18-19





12-13





32-33



38-39


4-5 АДРЭZAK

6-9 КАРОЛЬ ПАМЁР?

10-11 ТАМ, дзе нас ніхто не чакае

12-13 ДЖЭДАІЗМ

14-17 КАРОЛЬ у леапардавым футры

18-19 РЭЧЫ І ЧАЛАВЕКІ

20-23 КУЛЬТ Любко Дэрэш

24-26 "PERSONAL DEPECHE"

28, 30 ТЭЗАЎРУС

29 БЕЛАРУСКІ ТУРБА-МІКСЭР

31 EXTRĀ lifestyle

32-33 FREETER

34-37 ВНУ І "НАЛ"

38-39 ШТО ТАКОЕ сындром ЖЗ

## Не пакінуўшы сьлядоў

прайшоў 22-24 лістапада ~~Першы Менскі DJ кангрэс~~. Што дзіўна, прынамсі, па трох прычынах:

**38-гадзінны нон-стоп**

а) быў арганізаваны не апошнімі ў клюбнай тусоўцы пэрсанажамі - ~~Лёшам Палёным, Колем Маторыным і Ка~~;



б) праходзіў ня ў самым непрыстойным месцы - у "Бліндажы";

в) плэйліст зьмяшчаў ня самых горшых прадстаўнікоў жанру.

Тым ня менш, грамадзкі апіньён пра імпрэзу выявіўся хіба што ў некалькіх артыкулах, надрукаваных людзьмі, ня самымі блізкімі да club-культуры, і ў далекаватых ад яе СМІ. Сярод іншых доказаў, што "хлопчык быў", згадваецца хіба што раскладка party (якая цяпер да канца дзён будзе боўтацца на ~~http://www.con-gress.diskoteq.com~~), а таксама адвечнае форумнае ныцьцё пра "б*я...быкоўнік" і "атрымлівайце.....што заслужылі". Народ мэтанакіравана валіў на гасьцей - ~~DJ Компас Врубель~~, ~~DJ Гаврила~~ і ~~MC (!) Богдан Титомир~~ (што вы там казалі пра быкоў?). Нашыя ж як заўсёды даказалі, што яны самыя лепшыя. І як заўсёды гэтага амаль ніхто не заўважыў. Дзея скончылася масавым дыджэйскім пінг-понгам, на чым і было вырашана самараспусьціцца - да "першай паловы 2003 году".

## Казачны горад

Час няўмольны, але ён ня ўладны над сапраўднымі каштоўнасцьмі.

Дзіцячы сусьвет матэрыялізуецца зь дзіўнай хуткасьцю менавіта ў гэтым горадзе - горадзе нашага дзяцінства Мінску (у прастамоўі Менск). Хто памятае стэлажы яго публічных дзіцячых бібліятэк дзесяцігадовай даўніны, той беспамылкова ўзгадае першы радок бэстсэлераў для чытачоў малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту - Волков, ~~"Волшебник Изумрудного города"~~ ("Урфин Джюс и его деревянные солдаты") і іншыя опусы з гэтай жа сэрыі. Самае цікавае і захапляльнае, што даводзілася чытаць пасьля "Алесі ў краіне цудаў" пра жыцьцё і прыгоды "ня нашай" дзяўчынкі ў падазроным "ня нашым" казачным сьвеце.

Клюб-рэстарацыя ~~"Гудвін"~~, які адкрыўся на месцы рэстарацыі ~~"Сем пятніцаў"~~, пакуль не атрымаў такой усеагульнай славы і любові, як Элі і Страшыдла зь сябрамі, але як мінімум прыўнёс на твары заўзятых едакоў і клюбэраў неўразуменьне.




Першыя адназначна ў шоку (слова ўжытае са станоўчай канатацыяй): такое мэню, кошты і неназойлівы сэрвіс у цэнтры гораду адшукаць вельмі цяжка. Ясна, ня варта спадзявацца на куфлі Remy Martin (хаця кошт ў 45 у.а. за хай сабе і адзін зь лепшых каньякоў дазваляе разьлічваць менавіта на такія вымярэньні шыкоўнага напою), але астатнія "Сакрэты Бастыліі" не выглядаюць так фатальна дарага.

Клюбэры больш стрыманыя ў сваіх эмоцыях і кіруюцца інтэрвію арт-дырэктара клюбу, якое той даў "Першаму музычнаму". Насамрэч яго маналёгі, стыль паводзінаў "на публіку" і дэкляраваныя забаўляльныя праграмы пакуль насьцярожваюць: Дзень таўстуна, Цэлюліт-шоў, а таксама "Килька в томатном соусе", аздобленая кансэрвовым нажом, на перадавіцы газэты, у эпіцэнтры нацюрморту "а-ля совэцік". Заявы, вартыя палітыкі большасьці мясцовых "клюбаў", якія спэцыялізуюцца на боўлінгу - "гульні для абраных", "умца"-дыскатэках і інш. канцэртах "Boney M".





## Кольkасьць vs. якасьць: ціхі скандал у кіношнай сфэры

Зь 5 па 8 сьнежня прайшоў трэці паказ актуальнага кіно ў рамках праекту ~~КІНАфармат 4х4~~. Арытмэтычны заварот азначае ўсяго толькі каротка сфармуляваную канцэпцыю фэстывалю - чатыры фільмы, чатыры дні, чатыры кінатэатры. Рэалізуе праект манапаліст у сфэры візуальнага інтэртэйнмэнту Беларусі УП ~~"Кінавідэапракат"~~. Мэта прамоўтараў - прывоз у Менск кінастужак XXI стагодзьдзя.
Сытуацыя, аднак, нараджае трывалае ~~deja vu~~. Наноўсьпечаная "квартэтная" формула - клон Фэстывалю аднаго фільму, самай значнай кінападзеі лета-2002. Нагадаем, фэст меў фармат 1х1 - адзін фільм у адзін дзень і ў адным кінатэатры ("Кастрычнік"). Гэта была знаходка маладых кінапрамоўтараў са ~~Студыі XXI~~. Прасоўваньне ідэі ў масы ажыцьцяўлялася ў супрацоўніцтве з (сьюпрайз!) "Кінавідэапракатам". Вядома, што пасьля Лінчаўскага Mulholland Drive у верасьні гэтага году праект накіраваўся да прашчураў: Студыі XXI без тлумачэньняў было адмоўлена ў магчымасьці прэзэнтаваць наступны фільм, фэставыя паказы прыпынілі на няпэўны тэрмін. Ахвотныя да "смажаніны" сьцьвярджаюць, што менавіта такім спосабам былы партнэр ліквідаваў канкурэнта, якому даставаліся ўсе лаўры і іншая капуста. Што б ні казалі, адраджаць праект Студыя не зьбіраецца. Прынамсі, пакуль.
Што згубілі і што набылі гледачы, атрымаўшы замест карменьня з лыжачкі масіраваную кінаатаку, - пакажа час. Тым ня менш, хібы новага фармату відаць ужо цяпер. Спэцыялісты цьвердзяць, што ў адной абойме з "так сабе"-фільмамі некаторыя насамрэч значныя карціны застаюцца проста незаўважанымі.

## Народны

На пытаньне, каго з мастакоў-сучасьнікаў можна далучыць да кагорты клясыкаў мінулага стагодзьдзя, да нядаўняга часу абдзеленыя ўражаньнямі ад сусьветнавядомых шэдэўраў жыхары Сярэдняй Эўропы адказвалі празаічна: таго, каго апошнім "прывозілі" ў мясцовую нацыянальную галерэю.
Палякам у гэтым сэнсе пашанцавала крыху болей: мала таго, што варшавякаў і кракаўцаў час ад часу радуюць сапраўднымі шэдэўрамі, прывезенымі з Эўропы Заходняй, дык актуальнае ў сьвеце мастацтва робіцца для іх па-сапраўднаму блізкім, то бок народным.
Яшчэ некалькі тыдняў будзе працягвацца выстава ~~Пабла Пікаса~~ ў Нацыянальным варшаўскім музэі. Сказаць, што гледачы пасьля яе зірнуць на творчасьць прыхільніка крайніх левых па-новаму - значыць схлусіць: як і чакалася, кожны наведнік прыйшоў на выставу са сфармаваным поглядам на творчасьць мастака. Яна (творчасьць) альбо "геніяльная" (ці недзе так), альбо "страшна прымітыўная" (папросту "з пальца высмактаная"). Кожнаму сваё, але менавіта ў Польшчы Пікаса рызыкуе атрымаць тытул "народны мастак".



Самая буйная ў краіне ~~"Газэта Выборча"~~ абвесьціла, што сярод усіх чытачоў трэцясьнежаньскага нумару выданьня будзе разыгранае права ўладарыць... карцінай Пабла Пікаса ~~"Мастак і Жанчына"~~. Нічога асаблівага: гэты афорт, напісаны ў 1918 годзе і закончаны толькі 25 траўня 1970 году, быў прывезены ў Варшаву са швэйцарскай галерэі Kornfeld. Калі па праўдзе, дык "польскі" варыянт - трэці: першы адбітак афорту знаходзіцца ў прыватных зборах, лёс другога невядомы.
"Хто выйграе гэты твор і вырашыць прадаць яго, хай зьвяртаецца да мяне - даю 20 тыс злотых", - сказаў у размове з журналістамі нейкі Марэк Пяткевіч. Банальна, але факт: прадаць твор (хай сабе і не-непаўторны) за 5 тыс. даляраў - ці не замалы кошт для артэфакта, створанага геніем?



## Некранутая архаіка

Ні ў чым не вінаватыя мінакі ўвечары 28 лістапада зрабіліся ўдзельнікамі паўгадзіннага вяртаньня ў доледавіковы пэрыяд. Ініцыяцыйны рытуал, не дазволены ніякімі "камамі", зьдзяйсьняў спэцыяліст па першабытным калярыце ў РБ гурт ~~Drum Extasy~~, якому сёлета споўнілася 10 год. Каб адчуць актуальную для тэхнагеннай цывілізацыі духоўную еднасьць зь людзьмі ў мамантавых скурах, трэба было выпадкова апынуцца ~~пад мостам~~ церазь Сьвіслач ля парку Горкага. Сьвіслацкі under the bridge, які й так выкарыстоўваецца не па прызначэньні, ператварыўся ў першабытную пячору з вогнішчам, "шаманамі" і "супляменьнікамі". Языкі агню па законах фізікі падпарадкоўваліся шалёнаму рытму першаснай музыкі - біцьця сэрца. Для поўнага праўдападабенства не хапала толькі намаляваных охрай бізонаў на сьцяне.
За час выступу было зламана ня менш за дзьве палачкі і скарыстана ў якасьці паліва 6 пачкаў паюзаных шпалераў. ~~Міліцыянты~~, заўсёднікі папярэдніх акцыяў і неад'емная частка пэрформансу, чамусьці не прыйшлі...




# КАРОЛЬ ПАМЁР?

## да 25-годзьдзя з дня АДРАДЖЭНЬНЯ Элвіса Прэсьлі

**Чвэрць стагодзьдзя мінула з тае пары, як Элвіс Арон Прэсьлі, ён жа Кароль рок-н-ролу, пайшоў у іншы сьвет. Пайшоў па-манаршы - раптоўна, з тайнамі, здагадкамі, недамоўкамі. Зрэшты, "пайшоў" хіба што менш за ўсё адэкватнае таму, як працягваўся лёс Элвіса пасьля "сьмерці". Найбольш экзальтаваныя прыхільнікі Караля дагэтуль упэўненыя, што сьмерць іх героя - усяго толькі пачатак. Пачатак новага жыцьця.**

### КАРАЛЕЎСКАЯ ЭКСГУМАЦЫЯ

Сярэдзіна 1970-х. Элвіс Прэсьлі стала заняў Алімп сусьветнай поп-сцэны і спакойна рыхтаваў публіку да таго, што ў хуткім часе скончыць сваю бліскучую 20-гадовую кар'еру. Пакланеньне мільёнаў, залатыя дыскі, грошы, слава... Прынамсі, так выглядала жыцьцё Караля зьнешне. Знутры ўсё было нашмат горш.

У 1977 годзе ў Прэсьлі ўзьніклі сур'ёзныя праблемы з адной каліфарнійскай рыэлтарскай канторай, якая "кінула" Караля на 10 млн. даляраў. Грошы трэба было вяртаць - "адмазкі" кшталту "я заслужаны Кароль рок-н-ролу ўсяе Зямлі-матухны" фірмачам, цесна зьвязаным з наркамафіяй, "не кацілі", і за пазыку яны гатовыя былі "замачыць" увесь род Прэсьлі.

Элвіс гэта выдатна разумеў, таму, каб хоць неяк "падняцца на бабкі", ён падпісвае кантракт на турнэ, у якасьці перадаплаты патрабуючы ўвесь ганарар - 100 тыс. даляраў. Відаць, ад самага пачатку яму было вядома, што ніякага турнэ ня будзе. Да таго ж, папулярнасьць Прэсьлі дасягнула гіганцкага ўзроўню - жыць спакойна было зусім немагчыма. Неяк у Лас-Вэгасе мэнэджэры артыста выклікалі яму "хуткую", якая не магла прабіцца да хворага некалькі гадзінаў, - фэны заблякавалі ўсе пад'езды да гатэлю. Тысячы разоў пасьля канцэртаў сябры Элвіса хавалі яго ў багажніках і таемна вывозілі, бо фанаты-псыхапаты пагражалі "растыражаваць" Караля шляхам парваньня апошняга на тысячу шматкоў. Тут было не да жартаў: у Прэсьлі пачаліся сур'ёзныя праблемы з псыхікай, ён значна набраў вагу і паціху пачаў ужываць наркату.

Сыходзіць са сцэны старой і хворай развалінай? Такі варыянт быў не для Яго!

16 жніўня 1977 году Элвіса Арона Прэсьлі знайшлі мёртвым у яго маёнтку Грэйслэнд. Афіцыйная (чытай - адзіная і безальтэрнатыўная) вэрсія - "перадоз" - больш як нечаканая для Караля ўсіх часоў і народаў. Дый пры бліжэйшым знаёмстве зь біяграфічнымі акалічнасьцямі жыцьця "зоркі" становіцца зразумела, што ў гэтым выпадку мы рызыкуем сутыкнуцца з банальнай інсцэніроўкай. На карысьць гэтага сьведчыць тое, што, паводле бібліёграфаў, Прэсьлі валодаў вялікімі ведамі ў фармацэўтыцы, нетрадыцыйнай мэдыцыне ды ўсходніх адзінаборствах, якія дазваляюць імітаваць сьмерць.

Пахаваньне поп-манарха адбылося надзіва хутка - ужо на наступны дзень зямля прыняла героя рок-н-ролу такім, якім ён запомніўся фэнам: шыкоўным, глямурным, па-каралеўску бліскучым і... без аднаго бакенбарда! І гэта пры тым, як трапятка ставіўся Элвіс да валасянога покрыва на галаве!!! Знайшліся і іншыя падазроныя дэталі: у мерцьвяка былі надзвычай пухлявыя і далікатныя рукі - і гэта пры чорным поясе па каратэ і шматгадзінных трэніроўках, што надавалі суставам яго пальцаў унушальнасьць! Да таго ж, Элвісава труна важыла больш за 350 кг, у той час калі пры жыцьці Прэсьлі не перабіраў больш за 100-110 кг. Адкуль узяліся "лішнія" 250 кілі? Ня выключана, што ад... рэфрыжэратара: некаторыя з тых, хто быў дапушчаны да труны Караля, сьцьвярджаюць: ля яе было вельмі халодна. Магчыма, лядоўня была падрыхтаваная за некалькі дзён да "пахаваньня", каб падтрымліваць у належным стане васковую копію сьпевака.

Дзесьці празь дзьве гадзіны пасьля афіцыйнага абвяшчэньня сьмерці Прэсьлі сотні пасажыраў аэрапорту Мэмфісу сталі сьведкамі таго, як Элвіс і два яго спадарожнікі набылі квіткі да Буэнас-Айрэсу. Яны маланкай прашмыгнулі праз стойку рэгістрацыі - народ нават ачомацца не пасьпеў. Выключэньнем стаў Джон Спаркс, які рынуўся па аўтограф да "асобы, вельмі падобнай да Элвіса Прэсьлі" - гэта пацьвердзілі трынаццаць сьведкаў. Праз два гады графалягічная экспэртыза даказала арыгінальнасьць подпісу.

Праведзенае пазьней расьсьледаваньне высьветліла, што сярод пасажыраў таго рэйсу значыўся нейкі Джон Бэроўз - менавіта так любіў падпісвацца Прэсьлі, калі інкогніта рэгістраваўся

тэкст: Аля Навасеіч



ў гатэлях.
Так ці інакш, Элвіс сышоў, а дакладней, зьбег у магілу. Так хутка, што яго нават пахавалі ня побач з маці, як ён прасіў у тэстамэнце; у дадатак замест "Элвіс Арон Прэсьлі" на надмагільлі напісалі "Элвіс Аарон Прэсьлі". Заўважым, што зрабіць такое зь імем чалавека, які неабыякава ставіўся да ўсходніх філязофіяў, - яскравы знак...
Дзівосы працягваліся: праз нейкі час пасьля пахаваньня Караля некуды "падзелася" пасьведчаньне аб яго сьмерці. Ва ўсіх афіцыйных крыніцах фігуруе менавіта копія пасьведчаньня, датаваная 17 кастрычнікам, а не фотакопія сапраўднага пасьведчаньня, якая таксама існуе. Паміж двума дакумэнтамі ёсьць некаторыя адрозьненьні, як, напрыклад, вага трупа - каля 100 кг у фотакопіі арыгіналу і каля 67-68 кг у копіі пасьведчаньня.
Пасьля "сьмерці" сярод каштоўных рэчаў Элвіса не знайшлі старажытную Біблію, "Кнігу лічбаў" і некаторыя кнігі па мэдыцыне, ёзе, фармацэўтыцы, нумэралёгіі.
Затое амаль адразу пасьля сыходу Караля на тагачаснай эстрадзе зьявіўся таямнічы сьпявак Арыён - і фігурай, і голасам вельмі падобны да Элвіса, адно што ў масцы. Да таго ж Арыёна заўсёды суправаджаў двайнік, які адцягваў на сябе ўвагу прыхільнікаў пасьля канцэртаў. Ясная рэч, што зробленыя падчас нешматлікіх канцэртаў запісы песень былі вызначаныя экспэртамі як адназначна "выкананыя містэрам Элвісам Прэсьлі". Магчымасьць выкарыстаньня "фанэры" навукоўцы адкінулі.

## Другое прышэсьце

Не мінула і трыццаць год - і Ён знайшоўся. У красавіку 2002 году амэрыканскі тэлеканал Fox паказаў інтэрвію зь нейкім Дональдам Хінктанам - доктарам клінікі для псыхічна хворых зь Місуры. Па словах Хінктана, адзін зь яго пацыентаў у 1997 годзе прызнаўся ў страшным: "Я - той самы Элвіс Прэсьлі, які нібыта памёр у 1977 і з дапамогай сяброў схаваўся ад сьвету". Зразумела, што па спэцыфіцы сваёй працы Хінктан неаднаразова сутыкаўся з рознага кшталту знакамітасьцямі, якія любяць бавіць вольны ад асноўных заняткаў час у вар'ятні.
Але па-першае: у лякарні сапраўды лячыўся хворы Джэс Прэсьлі - так звалі каралеўскага брата-блізьнятку, які памёр неўзабаве па нараджэньні. Па-другое, пасьля неаднаразовых праверак амэрыканскіх журналюгаў высьветлілася, што Дональд Хінктан насамрэч мае лекарскую ліцэнзію, практыкуе ў клініцы штату Місуры і карыстаецца павагай калегаў як выдатны спэцыяліст. За яго шматгадовую практыку ніводнага парушэньня не было заўважана. Так што падобнага кшталту жартачкі (калі гэта жартачкі) яму наўрад ці ўласьцівыя.
Па-трэцяе, у доказ сваіх інсынуацыяў Хінктан дэманстраваў фатаздымак Элвіса ўзору канца 1990-х: непадобнасьць да арыгіналу доктар тлумачыў тым, што пасьля зьнікненьня Прэсьлі зрабіў пластычную апэрацыю, дый час бярэ сваё... Яшчэ адным аргумэнтам на карысьць вэрсіі "псэўдазвар'яцелага Караля" мусіць стаць аналіз ДНК залатой зубной каронкі, якую шчодры (як і раней) Элвіс падарыў свайму доктару.
У кнізе "Праўда пра Элвіса Арона Прэсьлі" Хінктан распавёў пра нялёгкае жыцьцё былой супэрзоркі ў сьценах лякарні побач з "напалеонамі", "ісусамі", "аляксандрамі македонскімі", "джонамі ленанамі" ды іншымі. Суаўтарам кнігі стаў той самы Элвіс-Джэс, 67-гадовы Кароль рок-н-ролу - пасівелы, хворы на прыступы дэпрэсіі і артрыт, з-за чаго ня здольны скакаць і сьпяваць як у маладосьці.
Але ў інтэрвію Хінктан з аптымізмам адзначае, што за 25 год сьпявак адпачыў, супакоіўся і з новымі сіламі гатовы выйсьці на сцэну. Калі тое будзе? 16 жніўня 2002 году, у дзень сьмерці Элвіса, калі было дэкляраванае "другое прышэсьце" поп-ідала, адраджэньня так і не адбылося. Ці то Кароль яшчэ не зусім упэўнены ў гатоўнасьці канкураваць зь якім-кольвек Робі Ўільямсам і будзе самаўдасканальвацца да жніўня году 2003-га, ці то папросту адміністрацыя лякарні не адпусьціла свайго пацыента ў шалёны сьвет шоу-бізнэсу...
Шырокая грамадзкасьць ня ў курсе. Гэта што да Элвіса-псыха. "Нармальнага" ж Прэсьлі неаднойчы бачылі ў розных месцах - ад часу афіцыйнае сьмерці да нашае эры ўсё часьцей і часьцей. Пік выпадкаў назіраньня жывога Караля рок-н-ролу прыпаў на 1991 год, калі паштовае ведамства ЗША надрукавала марку з выявай сьпевака (напэўна, каб яго лягчэй было ідэнтыфікаваць). Прэсьлі рэгулярна сталі бачыць у горадзе Каламазу, у Тэхасе на адным з ранча, у кампаніі з Далай Ламам, у Вэнэцыі на музычным фэсьце...
Паводле апытаньня часопіса "NME" Элвіс "засьвяціўся" пры наступных абставінах (цытуем):
*- "Каля станцыі мэтро Finsbury Park, дзе Ён "заганяў" "левыя" кашулькі з выявай "Oasis" пасьля канцэрту аднайменнага гурта";*
*-"У адным са стакгольмскіх бараў, дзе Ён мёў падлогу, мармытаў пад нос нейкую песьню і выглядаў цалкам задаволеным жыцьцём";*
*- "На выхадзе з музычнай крамы "Rpas". Элвіс вельмі непрыхільна паглядзеў на набытыя мной кампакты з альтэрнатыўнай музыкай";*
*- "На фэсьце ў Гластанбэры. На жаль, ён так і ня выступіў, але калі я назіраў за Элвісам падчас сэту гурта "BRMC", мне падалося, што ён вельмі някепска бавіць час".*
Некаторыя людзі бачылі Прэсьлі ў танных крамах, часьцей на поўначы Вялікабрытаніі, хтосьці лічыць, што ён зараз працуе кіроўцам аўтобуса/паштальёнам/трактарыстам у ЗША.
Акрамя таго, некаторыя спрабавалі давесьці, што бачылі Элвіса, калі той "хацеў узяць аўтограф у Эмінэма". Сьмеху варта: трэба было ўставаць зь мёртвых, каб дабіцца подпісу нейкага тупарылага рэпэра...
Карацей, пасьля адраджэньня жыцьцё Караля неяк ня склалася - рэзкае вяртаньне ў народ яму яўна зашкодзіла. Таму і жыве містэр Прэсьлі (ці як там яго зараз клічуць) спакойна, не вылузваючыся. Што, па вялікім рахунку, пакуль усім на руку: напрыклад, ангельская букмэйкерская кантора William Hill ужо чвэрць стагодзьдзя прымае стаўкі на тое, што Элвіс Прэсьлі жывы. Пакуль што выйгрыш выплачваць не даводзілася, але па сьцьверджаньні аднаго з прадстаўнікоў William Hill, "калі крый божа Кароль аб'явіцца, сумарныя выплаты складуць шасьцізначную лічбу".



тэкст: Алесь Безка

# ТАМ,

## дзе нас ніхто не чакае

Гэтыя месцы мы звычайна згадваем альбо з дрыжыкамі па ўсім целе, альбо зь філязофскай задуменнасьцю на твары. Сюды мы трапляем на Радаўніцу ці на Дзяды, некаторыя вар'яты здольныя начаваць тут "на спор" зь пляшкаю пад пахай. Могілкі...
Права памерці - адзінае, што атрымлівае адразу па нараджэньні ўсё жывое, і чалавек, на жаль (ці на шчасьце?), - не выключэньне. Усе мы роўныя каласы пад Яе касой і ўсе будзем Там - у Месцах Вечнага Адпачынку... Могілкі адрозьніваюцца паміж сабой настолькі, наколькі розьняцца іх "гаспадары". Каму - нахілены крыж, а каму...
Слава "зорак" поп-культуры часта ўзрастае ў геамэтрычнай прагрэсіі пасьля іх сьмерці. Часам заўчасны ці загадкавы сыход з жыцьця і запальвае тыя "зоркі". Але фэнам усё адно. Нібы нейкая магнэтычная сіла прыцягвае іх да месцаў вечнага адпачынку ідалау, багоў, куміраў. Абліць надмагільны камень горкімі сьлязьмі, паставіць сьвечку, выпіць пляшку піва на магіле - за такую магчымасьць заўзяты фэн гатовы аддаць апошнія драныя джынсы. Убачыць Парыж і памерці...

### Джымі Хендрыкс (1942 - 1970)



Вось хто сапраўды прыроджаны імпэратар псыхадэлу! Апісаць, неяк клясыфікаваць Хендрыкса абсалютна немагчыма. Ён быў вялікім рокерам і адным зь першых, хто заўчасна гэты рок пакінуў. Народжаны чарнаскурым, напачатку ён граў блюз у маленькіх брудных клюбах, куды прыходзілі паслухаць шалёнага Караля Гітары Пол Макартні, Кейт Рычардз і Піт Таўншэнд. Супэрстарам Хендрыкс зрабіўся пасьля выступу на сцэне Монтэрэйскага фэсту, дзе лютаваў, ірваў зубамі струны, а пасьля спаліў сваю гітару на вачах у агаломшанай публікі. Джымі называў сваю гітару "электрычнай лэдзі"...
Геніяльнасьць патрабуе адпаведных ахвяраў. Хендрыкс жыў як "зорка", мяняючы па некалькі палюбоўніц за ноч, глытаючы "калёсы" кіляграмамі. У выніку і памёр ад банальнага "перадозу" гераіну. Яго пахавалі ў родным Сыэтле, на яго магіле заўсёды тусуецца шмат музыкаў - як той казаў, плюнь і патрапіш.
Два гады таму сям'я Хендрыкса вырашыла перанесьці цела Джымі ў шыкоўны маўзалей, у такі мэмарыяльны комплекс з бронзавай статуяй Караля Гітары. Ідэя ня выклікала энтузіязму ў насельніцтва - цяпер за візыт на магілу даводзіцца плаціць грошы.




### Джэймс Дын (1931 - 1955)



Сьпяшаўся жыць, памёр маладым - затое ў труне прыгожа выглядаў. Слынны "бунтар без прычыны" быў бесьпярэчным узорам для перадэлвісаўскага пакаленьня маладых амэрыканцаў з брыльянтынам у валасах ды з грабеньчыкам і насоўкай у кішэні джынсаў. Трагічная і супярэчлівая асоба, Дын так і ня здолеў пераламаць у сабе "звычайнага" чалавека. Ён імкнуўся выдаваць на рамантыка, і на экране гэта ў яго добра атрымлівалася, што сьведчыць пра выдатныя акторскія здольнасьці - але насамрэч Дын быў нізенькі, нясьмелы і насіў акуляры.
...Сьмерць не дала Джэймсу доўга пабыць культавым акторам - ва ўзросьце 24 гадоў ён разьбіўся на сваім срэбным поршэ. Магіла чалавека, які аказаў вялікі ўплыў на ўсё пакаленьне 40-х - 50-х гадоў (на Джона Ленана ў прыватнасьці), знаходзіцца ў Фэрмонце, штат Індыяна. Яна таксама надзвычай сьціплая, але мора кветак і сьляды губной памады на надмагільлі добра дэкаруюць яе і выклікаюць пачуцьцё здаровай зайздрасьці.





### Брус Лі (1940 - 1973)

На небасхіле баявых адзінаборстваў ён прамільгнуў нібы мэтэор і гэтак жа раптоўна зьнік 20 ліпеня 1973 году ў Ганконгу, дзе яго напаткала нечаканая сьмерць. Аднойчы Брус сказаў: "90% азіяцкіх сыстэмаў самаабароны ўвогуле нічога ня вартыя. Я навучаю не якому-небудзь цырыманіялу ці спорту - я даю сапраўдны мэтад самаабароны".
Абараніць сябе вялікі Майстар так і ня здолеў. Перад уваходам у адну з трэніровачных заляў у Сыэтле можна ўбачыць надмагільны камень з наступным надпісам: "Прысьвячаецца памяці чалавека, калісьці спрытнага, але пакалечанага клясычнымі мэтадамі". Яго сьмерць сталася апошнім і самым скрышальным ударам для аматараў кіно і баявых адзінаборстваў.





### Элвіс Прэсьлі (1935 - 1977?)

Кароль рок-н-ролу знайшоў (сапраўды?) свой вечны прытулак у... музэі. Так, бо насамрэч слынны Грэйслэнд у Мэмфісе ператвораны ў музэй Прэсьлі. Элвіс спачывае пад несупыннае стракаценьне кіна- відэа- фотакамэр, яго труна проста зьзяе ад успышак апаратаў. Невысокая ажурная агароджа не дазваляе наблізіцца да свайго куміра сотням наведнікаў, якія штодня штурмуюць "сьвятое" месца. Ня дзіва, што прыбытак ад "эксплюатацыі" магілы Караля сувымерны з даходамі Дыснэйлэнду. Яна (магіла) - адначасова і сымбаль амэрыканскага прагматызму: хто ж яшчэ можа так апаганіць сьвятое месца продажам маек, бэйсболак і нават шкарпэтак з выявай Элвіса, самога Караля?!
Карацей, плачце колькі заўгодна, але не забудзьцеся заплаціць за ўваход (шалёныя, між іншым, грошы).



### Труны, якіх няма

**Курта Кабэйна** (1967 - 1994) - па неафіцыйных дадзеных, яго цела пасьля сьмерці было крэмаванае, а прах патроху раскіданы ў розных месцах.
**Маты Хары** (1876 - 1917) - цела завяшчанае для навуковых экспэрымэнтаў.
**Джэніс Джоплін** (1943 - 1970) - пасьля крэмацыі прах разьвеяны над Ціхім акіянам, таксама як і **Стыва Макуіна** (1930 - 1980).
**Джона Ленана** (1940 - 1980) - прах аддадзены родным.
**Фрэдзі Мэркуры** (1946 - 1991) - па крэмацыі прах спачывае ў Жэнэўскім возеры ў Швэйцарыі.

**P.S.** Уладараньню адно Аіда ды Марфэя прыходзіць канец - іх ўсёткі перамог "залаты герой сёньняшніх дзён" - містэр Бакс. Хутка на магілах аўстралійцаў, што зьдзейсьнілі якія-кольвек подзьвігі, зьявяцца адмысловыя шыльдачкі. На іх будуць красавацца назвы фірмаў, кампаніяў ці арганізацыяў, якія спансуюць утрыманьне месца спачыну знакамітасьці. Можа, яно й добра, але чамусьці пры поглядзе на невялікую магільную пліту ля бэтоннага слупка й мэталёвых кратаў агароджы са сьціплым надпісам Jan Sebastian Bach нешта пачынае шчыміць там, дзе па меркаваньнях старажытных мудрацоў знаходзілася аморфнае ўтварэньне пад назвай "душа". Хаця ў наш час там звычайна месьціцца бумажнік.






### Джым Морысан (1943 - 1971)

Непаўторны паэт, геніяльны вакаліст The Doors ня мог сысьці інакш. Яго знайшлі мёртвым у нумары парыскага гатэлю: Джым прымаў ванну. Экспэрты канстатавалі спыненьне сардэчнай дзейнасьці. Сапраўды, ці можа чалавечае сэрца не разарвацца, калі яго перапаўняе столькі любові і нянавісьці, энэргіі і холаду, музыкі і словаў, алькаголю і наркаты. Няважна: Морысану хапіла сваіх 28 год, каб стварыць уласны сьвет і падарыць яго ўсім астатнім.
Пахаваны ён на парыскіх могілках П'ер-Лашэз у "суседзтве" з Шапэнам і Эдыт Піяф. Яго магілу можна без праблемаў знайсьці, арыентуючыся па намаляваных "графітчыкамі" стрэлках і па ўстойлівым кумары ад "траўкі". Аднекуль ліецца музыка The Doors, гучыць голас, здольны абудзіць і мёртвага. Але не самога Морысана.
Сьпі спакойна, Джым...



# ДЖЭДАІЗМ

## асновы веравызнаньня

**Не, гаворка пойдзе не пра кіно. Зусім не пра кіно.**
**Уласна кажучы, шматсэрыйны Лукасаў блёк-бастэр "Зорныя войны" ня мае да зьявы, пазначанай у загалоўку, амаль ніякага дачыненьня. Просты факт: паводле вынікаў апошняга аўстралійскага перапісу, на Зялёным кантынэнце 70.000 чалавек называюць сваёй рэлігіяй "джэдаізм". Для іх ЗВ – сапраўднае Сьвятое Пісаньне. Такім чынам, па колькасьці вернікаў джэдаізм зрабіўся ў Аўстраліі даволі сур'ёзнай канфэсіяй (0,3% насельніцтва), што дае яму падставы прэтэндаваць нават на дзяржаўную падтрымку. Значная колькасьць джэдаістаў зафіксаваная таксама ў Юкей і ў Юэсэй.**








тэкст:
Язэп дзін Альт

### Катэхізіс

Відавочна - і гэта даводзяць самі сэктанты - для таго, каб зрабіцца джэдаістам, проста фанацець ад эпапеі недастаткова. Тыя самыя згаданыя аўстралійцы лічаць герояў сэрыялу сапраўднымі прарокамі. І ня толькі яны: паводле зьвестак BBC, улады Вялікабрытаніі прызнаюць гэтую рэлігію афіцыйнай. Джэдаісты зусім не імкнуцца жартаваць зь дзяржаўнай статыстыкай, як, напрыклад, тыя, хто падчас перапісаў фармулюе свае рэлігійныя перакананьні як "адэпт Манчэстэр Юнайтэд".

Мабыць, высакалобыя кінафілы будуць доўга сьмяяцца, але ўсе пяць сэрыяў ЗВ (на падыходзе шостая - здаецца, апошняя) маюць сакральны падтэкст. Гэтую ціхенькую мэлёдыю не адразу чуваць на фоне грымотаў амбітнай "касьмічнай опэры", але менавіта на ёй, а не на візійным зьмесьце стужкі, грунтуецца джэдаізм. Пад хрусткай абгорткай казачнага сюжэту барацьбы Дабра і Ліха (хто любіць штампы - можа называць гэта архетыпам) хаваецца цалкам канкрэтнае сьветаўспрыманьне. Нездарма каталіцкая царква ўжо пасьля прэм'еры першай сэрыі зьвярнула ўвагу на тэалягічны падтэкст стужкі.

Сакральны зьмест ЗВ прачытваецца ўжо ва ўзаемаадносінах Люка Скайуокера і Дарта Вэйдэра. Няма ніякай антытэзы Дабра і Ліха! Ёсьць - і гэта ня можа не прыаздобіць пэнсійныя гады былых выкладчыкаў дыямату - адзінства і барацьба процілегласьцяў. Інакш чаму ўвасабленьнем Ліха выглядае Вэйдэр, а не Імпэратар? І чаму Люк адмаўляецца ад вызначальнага адзінаборства з Вэйдэрам? Калі разабрацца, Люку ад самага пачатку нічога не каштавала забіць Дарта. Але ў прывіднай бойцы з Вэйдэрам Люк бачыць пад маскай ворага свой уласны твар. "Заб'еш Вэйдэра - заб'еш сябе!"

З гэткіх недамовак ды намёкаў і складаецца сакральны тэкст джэдаізму. Кааны Ёды ды ваганьні Люка даюць джэдаістам трывалую глебу для рэлігійных рэфлексіяў.

Джэдаіст - гэта той, хто хоча быць Джэдаем. Сапраўдны Джэдай павінен верыць у Сілу, адчуваць яе плыні, валодаць навыкамі тэлекінэзу і левітацыі, цалкам падпарадкоўваць свае пачуцьці волі. У якасьці вітаньня джэдаісты выкарыстоўваюць штамп "Хай будзе з табой Вялікая Сіла!" Вялікая Сіла - асноўная "замарочка" джэдаістаў. Сіла - і высокі ўзровень мідыхлярыянаў у крыві. Трэба толькі адчуць гэтую Сілу, навучыцца яе кантраляваць - і арганізм пачынае ўдасканальвацца, удасканальвацца... Хочаш - лётай, хочаш - саматэлепартуйся з плянэты на плянэту ці зарабляй на жыцьцё ажыўленьнем мёртвых. Джэдаі ахоўваюць наш сьвет і падтрымліваюць балянс Сілы. Але, зразумела, гэтыя посьпехі трэба трымаць у сакрэце, бо нехта можа выкарыстаць нестандартныя магчымасьці на шкоду людзям, перакінуўшыся на Цёмны Бок Сілы. Пры спробах атакі звонку сэктанты з дапамогай тэлекінэзу пераносяцца ў іншае месца, а хто яшчэ не авалодаў Сілай у дастатковай ступені - сканчвае жыцьцё самагубствам. Ёсьць і абрады ініцыяцыі, гіерархія ступеняў далучанасьці й да т.п.

Гэта - "караценька". Для зацікаўленых існуюць відэа, DVD, DOLBY і лязэрныя мячы ў асартымэнце. Пад грукат цацачнай зброі звон сапраўдных манэтак у касе гучыць ужо ня так дробнабуржуазна...

### Аналёгіі

Адкуль яны ўзяліся?
А інакш і быць не магло. Дакладней, так было ўжо даўно. Ёсьць і будзе. Ніцшэ нам сказаў, што Бог памёр, але вялікі немец забыўся ўдакладніць, што сьвятое месца пустое не бывае. Калі Бога няма, дык яго пасаду займае тое, што трапіць пад руку. Я гэта зразумеў колькі год таму, калі мая сяброўка-атэістка зьдзейсьніла цырыманіял пахаваньня свайго тамагочы.

У Лас-Вэгасе ўжо шмат год афіцыйна існуе царква Элвіса Прэсьлі, але гэта яшчэ кветачкі. Культавымі называюць "Дзюну" і "Санта-Барбару". Мовай клінганаў - іншаплянэтнікаў са "Стар-трэку" - у паўсядзённым жыцьці карыстаецца каля 100.000 чалавек ва ўсім сьвеце. Зь іншага боку, параўнальна невялічкая суполка (нерэлігійная) верыць, што ўсё распаведзенае ў "X-files" - чыстая праўда. Мы жывем, як у Рымскай імпэрыі часоў заняпаду, хіба што барбары-талкіеністы пакуль ня паляць старых храмаў. Але ўласных капішчаў яны ўжо панабудавалі. Ля гэтай станцыі мэтро зьбіраюцца эльфы, ля той - гобліны... А вунь там заўтра будуць джэдаі.

Грамадзтва масавага спажываньня ўпісвае рэлігійныя перакананьні ў ланцуг "попыт-вытворчасьць-прапанова-спажываньне". Апосталам "веры за энную суму", калі не лічыць самаробных мэсіяў з г.зв. таталітарных сэктаў, якія дзейнічалі маральна састарэлымі апостальскімі мэтадамі, быў Л. рон Хабард. Спрытны хлапчук першым сьцяміў, як можна на сваіх творах нажыць рэлігійны капітал. А заадно і прыдбаць "кішэнных", прычым "пахезаўшы" падаткі. Усьлед за тэарэтыкам дыянэтыкі ламануўся натоўп эпігонаў.

Але джэдаманія адрозьніваецца ад усёй згаданай набрыдзі тым, што была выкліканая да жыцьця спантанна. Тут няма нечай папярэдняй задумкі ці, прынамсі, сплянаванай стратэгіі. Культ зарадзіўся сам сабой - у кілямэтровых чэргах на тыя, яшчэ самыя першыя ЗВ, якія цяпер прынята называць "Эпізодам 4". Фэномэн!

Хутчэй за ўсё, джэдаізм - першая ластаўка. На чарзе - кляштар пакутніцы Лоры Палмэр. Ці наадварот - чорны вігвам на поўным сур'ёзе і злыдзень Боб. Шоў-бізнэс у стане задаволіць попыт на штучныя аўтарскія культы. Мадэрнізаванае вынішчае парэшткі традыцыйнага. Поп-культура ўсур'ёз прэтэндуе на месца Культуры. І яна яго атрымае.

### Рэха цывілізацыяў

Джэдаісты сустракаюцца і ў Менску, але наколькі гэта праверанныя ў баях таварышы - казаць не бяруся. Хутчэй за ўсё ім проста падабаецца гэтае кіно. Мне падаецца, што мы, знаходзячыся на пэрыфэрыі спажывецкай цывілізацыі, вызнаем, так бы мовіць, "нізкія" спажывецкія культы. Джэдаізм - вышэйшы пілятаж поп-культуры. Нам жа зручней пакланяцца больш простым ідалам. Нехта набывае майку з Рыкі Мартынам і на хвіліну адчувае квазі-рэлігійны экстаз. Іншы вызнае вульгарны "вещизм" і марыць пра апошнюю мадэль кухоннага камбайна. Рэлігійным крэда для масаў стаў наўны лёзунг "In Go(l)d we trust".



Так што джэдаізм "па-нашаму" - толькі адбітак працэсаў, якія адбываюцца ў цэнтры постіндустрыйнага сьвету. Проста гэта модна. Да аскоміны "остро-модный" часопіс "Пцюч" крычыць: "Сіла зноў з намі!" Такая вось культурная ірадыяцыя.



# КАРОЛЬ
## у леапардавым
# ФУТРЫ

тэкст: maryjka

**Спакойна і павольна, нібы ў зачараваным сьне, нясе рака Конга Атлянтычнаму акіяну сваю багатую даніну. Побач – бязьмежныя абсягі з найбагацейшымі ў Афрыцы прыроднымі рэсурсамі й найбяднейшым у сьвеце народам. Сёньня ДР Конга вядомая ў сьвеце як калыска самай вычварнай і жорсткай, прынамсі, на афрыканскім кантынэнце, дыктатуры. За хітрасьць прэзыдэнта Мабуту Сэсэ Сэка называлі чарнаскурым Макіявэлі, ці – кпліва – Макіявэлі ў спадніцы. Маўляў, чаго яшчэ чакаць ад дзікуноў. Мабуту вядомы як аўтар і галоўны герой культу асобы, які, калі адкінуць цэнтральнаафрыканскую экзотыку, можна назваць клясыкай жанру.**

## АСОБА

Мабуту Сэсэ Сэка нарадзіўся ў 1930 годзе ў паселішчы Лісала, што на рацэ Конга. Яго бацькі паходзілі з племені, якое рана ўступіла ў кантакты з калянізатарамі, і працавалі ў абслузе: татка быў кухарам, мамка - пакаёўкай. Хрышчоныя па каталіцкім абрадзе, яны хрысьцілі й сына, даўшы яму гучнае францускае імя - Жазэф Дэзірэ.

Калі малому споўнілася восем год, яго аддалі ў місіянэрскую каталіцкую школку. У бэльгійскім Конга гэта быў адзіны шлях, якім чарнаскуры мог выбіцца ў людзі, стаць evole, "разьвітым" - так бэльгійцы называлі адукаваных мурынаў, што працавалі ў каляніяльных службах. Мабуту, аднак, да канца не эўрапеізаваўся: з маленства ён знаходзіўся пад моцным уплывам роднага дзядзькі Сэсэ Куку, шамана племені. Школа дала хлопцу веданьне францускай, дзядзька прышчапіў пляменьніку культ продкаў, павагу да інтарэсаў племені й іншыя традыцыйныя мулькі. Прырода надзяліла Мабуту харызмай, кемлівасьцю, здольнасьцю заводзіць выгадныя знаёмствы й адчуваць, адкуль дзьме вецер.

У 19 год проста са школьнай лавы хлопец патрапіў у каляніяльнае войска "Форс Публік", дзе без асаблівых цяжкасьцяў даслужыўся да чыну сяржанта. Далей - колькі год журналісцкай працы ў сталіцы Конга Леапольдвілі ды вучоба ва ўнівэрсытэце ў Брусэлі. У 1958 годзе Мабуту ўступае ў Нацыянальны кангалескі рух, які ачольвае Патрыс Лумумба - сымбаль афрыканскага вызваленьня й сьвяты апякун усіх чарнаскурых студэнтаў Масквы, а з 1960 году - прэм'ер-міністар Дэмакратычнай рэспублікі Конга. Вядома, Бэльгія, Францыя й ЗША не зьбіраліся губляць неаранае поле каляровых мэталаў і дыямэнтаў, якім было (і дагэтуль ёсьць) Конга. Меркавалася, што сьвежасьпечаная рэспубліка застанецца пад кантролем нядаўніх калянізатараў, аднак заходні сьвет недаацаніў прагу кангалезцаў людзьмі звацца. Лумумба абвесьціў палітыку нацыянальнага разьвіцьця краіны й пачаў наладжваць сяброўскія стасункі з Савецкім Саюзам. Гэта яго й загубіла. У 1960 годзе "марксыст" быў адціснуты ад кіраваньня рэспублікай, узяты пад хатні арышт, а праз колькі месяцаў забіты. Цяпер адкрыта кажуць пра тое, што забойства Лумумбы было замоўленае ЦРУ, а загад зыходзіў ад Мабуту, начальніка вайсковага штабу ў лумумбаўскім урадзе. У 1965 годзе пасьля двух вайсковых пераваротаў Мабуту займае пасаду прэзыдэнта краіны.

Сваё кіраваньне ён пачаў з таго, што ў прысутнасьці 65-тысячнага натоўпу павесіў на сталічным стадыёне чатырох міністраў і раздаў кіраўнічыя пасады сваякам, супляменьнікам і блізкім сябрам. Працавала сем паралельных службаў дзяржбясьпекі, якія зьнішчалі магчымых палітычных канкурэнтаў адзінага і непаўторнага па меры іх зьяўленьня. У выніку кожныя сем год Мабуту быў адзіным кандыдатам на прэзыдэнцкіх выбарах і без праблемаў перавыбіраўся на наступны тэрмін. Ён натхніў журналістаў на стварэньне новага паліталягічнага тэрміну - клептакратыя, бо вызначыць сутнасьць яго рэжыму іншым словам было нельга. Цягам 30 год Мабуту рабаваў сваю краіну. Напачатку 90-х былі зачыненыя школы й шпіталі, на 40 мільёнаў жыхароў было 90 тысячаў працоўных месцаў, а на рахунку прэзыдэнта ў швэйцарскіх і амэрыканскіх банках ужо ляжала 5 мільярдаў даляраў. Па сутнасьці, краіна ніколі не была незалежнай. Проста ў адзін цудоўны момант "белых" калянізатараў замянілі "чорныя".

Палітычныя рэформы, якія праводзіў Мабуту, фактычна былі зьменай дэкарацыяў. Краіне й рацэ далі архаічнае афрыканскае імя Заір. Сталіцу назвалі Кіншасай. Мабуту забараніў эўрапейскую вопратку, прымусіўшы кангалезцаў вярнуцца да традыцыйнай. Сам ён насіў славутую пілотку зь леапардавага футра - даўняга сымбалю каралеўскай улады ў Конга - і мундыр з таго ж матэрыялу. Кажуць, ён сам быў мадэльерам свайго плямістага строю, які пакроем нагадваў кіцель Мао. Замест атрыманага падчас хрышчэньня імя Жазэф Дэзірэ дыктатар узяў простае афрыканскае - Мабуту Сэсэ Сэка Куку Нгбэнду ва за Банга, што азначае "ўсемагутны ваяр, які, дзякуючы сваёй мужнасьці й непахіснай волі да перамогі, будзе рабіць заваяваньні адно за адным, пакідаючы за сабою агонь". Праўда, ляканічная, але ёмістая мова лянгала дазваляе й іншы, неафіцыйны пераклад - "певень, які топча квахтушак".




Увага, пытаньне: як аб'яднаць народ, што складаецца з 200 этнічных групаў і размаўляе на такой самай колькасьці моваў? "Нацыя мусіць быць палітычна арганізаваная," - адказвае Мабуту і ў 1967 годзе ставарае адзіную магчымую партыю - Народны рух рэвалюцыі і адзіную магчымую ідэалёгію - мабутызм. Краіна была завешаная партрэтамі прэзыдэнта. Кожны дзень у школах пачынаўся з таго, што вучні скандавалі

хорам: "Адна ідэя, адна краіна, Мабуту - наш бацька адзіны. О, бацька Мабуту, ісьці за Мабуту мы будзем, пакуль не памрэм". Цяжка сказаць, чым была гэтая лічылка-крычалка: самазамбаваньнем альбо шчырым памкненьнем дзіцячых сэрцаў.

## КУЛЬТ

Нават выдатных знаўцаў псыхалёгіі масаў зьдзіўляла бязьмежная ўлада Мабуту над чалавечай сьвядомасьцю. Простыя людзі фанатычна любілі Правадыра, Бацьку Народу й Мэсію (яго афіцыйныя тытулы). Заірцы пакланяліся Мабуту ў літаральным сэнсе слова: укленчвалі і з усёй палкасьцю мурынскага тэмпэрамэнту біліся галовамі аб зямлю. Гэткія сцэны выклікаюць жах, але маюць лягічнае тлумачэньне.

У XIX стагодзьдзі ў Конга прыйшлі хрысьціянскія місіянэры. Плямёнам, рэлігійная сьвядомасьць якіх знаходзілася яшчэ на ўзроўні сынкрэтычных культаў, пачалі даводзіць асноўныя дагматы Сьвятога Пісаньня. Такім чынам, вышэйшыя духі, якім пакланяліся афрыканцы, пэрсаніфікаваліся ў іх уяўленьні ў Ісуса Хрыста й сьвятых апосталаў. Тубыльцы хадзілі ў касьцёлы, прымалі хрост, прычашчаліся, але гэта не перашкаджала ім аддаваць дзяцей на суровыя абрады ініцыяцыі і рэзаць па начах чорных пеўнікаў. Такая мяшанка ў рэлігійнай сьвядомасьці сталася добрай глебай для стварэньня разнастайных сэктаў і квазіхрысьціянскіх плыняў.



У Бэльгійскім Конга быў вельмі папулярны кімбангізм - адмысловы мікс зь Біблії і традыцыйных культаў, посьпех якога забясьпечвала нянавісьць мурынаў да каланізатараў. Чарнаскурыя афрыканцы былі абвешчаныя абраньнікамі божымі, якія пасьля зьвяржэньня ўлады "белых" будуць жыць у царстве дабра й справядлівасьці. Мабуту дзейнічаў прыкладна па такой жа схеме. Сэнсам "ідэалёгіі мабутызму" было прызнаньне Мабуту богам. З краіны пагналі каталіцкіх сьвятароў, але касьцёлы не руйнавалі - проста ў алтары павесілі партрэты прэзыдэнта. Маці Мабуту атаясамілі зь Дзевай Марыяй.

Аднак з хрысьціянствам культ Мабуту меў толькі зьнешняе падабенства. Сутнасна ён абапіраўся на традыцыйныя афрыканскія забабоны, у якіх хто-хто, а пляменьнік вясковага шамана цяміў някепска. Ня трэба быць Фройдам, каб ведаць, наколькі ў афрыканскіх плямёнах шануецца мужчынская сіла. Мабуту стварыў міт аб сваёй неверагоднай моцы. Распавядаліся шматлікія байкі пра дзяцінства прэзыдэнта - напрыклад, пра тое, як у сем год ён голымі рукамі задушыў ільва. Заірцы верылі, што прэзыдэнцкае жазло з чорнага дрэва здольны падняць толькі сам Мабуту. Хадзілі ўпартыя чуткі пра яго людажэрства, аднак яны маглі шакаваць хіба што цывілізаваных эўрапейцаў, бо для заірцаў канібалізм прэзыдэнта сьведчыў пра павагу Мабуту да сваіх продкаў і далучанасьць да традыцыяў. Для паўнаты карціны трэба дадаць, што "певень" спраўна "таптаў квахтушак" - мабыць, таму і сканаў у 66 год ад раку прастаты.

Асноўным сродкам уплыву на масы зьяўлялася тэлевізія. Дарогі былі ў жудасным стане, і вельмі часта аддаленыя рэгіёны надоўга заставаліся без прадуктаў і лекаў. Тэлесыгнал - адзінае, што даходзіла бяз збояў. А ў тэлевізары, вядома ж, паказвалі адно прэзыдэнта. Мабуту трымае на руках маленькую дзяўчынку. Мабуту аплаквае лёс тысячаў суайчыньнікаў, памерлых ад халеры. Мабуту танчыць з народам запальны танец і сьпявае песьню ў свой гонар. У якасьці застаўкі да заірскіх навінаў шмат гадоў выкарыстоўвалі адмысловы ролік: Мабуту ў боскім зьзяньні ідзе па аблоках на тэлегледача. Урады ЗША, Бэльгіі й Францыі заплюшчвалі вочы на тое, што робіцца ў Заіры: маўляў, чым бы дзіця ні цешылася, абы з камуністамі не вадзілася. Заходнія лідэры й самі ахвотна паддаваліся зачараваньню свайго enfant terrible. Падчас адной з паездак у ЗША Мабуту ўзяў з сабою ўсіх сваякоў і дваццаць сваіх дзетак. Дэлегацыя зрабіла два афіцыйныя візыты: у Белы Дом і флорыдзкі Дыснэйлэнд. Ну як можна было крыўдаваць на такога "душку"?

Калі разваліўся Савецкі Саюз, буфэр супраць камуністычнай экспансіі перастаў быць патрэбным Захаду. Мабуту загадалі весьці краіну дэмакратычным шляхам. Не праблема - той зрабіў са сваёй партыі пяць і зноўку выйграў выбары. Аднак яго час мінуў. У 1997 годзе ўладу захапіў Ларан Кабіла - адвечны праціўнік Мабуту: больш за трыццаць год ён партызаніў у джунглях, а ў 65-м нават ваяваў поплеч з камандантэ Чэ, які акурат у той час прыехаў у Афрыку дапамагаць "чорным братам" рабіць рэвалюцыю. Калі паўстанцы Кабілы ўваходзілі ў Кіншасу з крыкамі "Мы зьямо Мабуту!", апошні ўжо знаходзіўся на сваёй мараканскай віле. Памёр ён у 1997 годзе ў выгнаньні. Паводле афрыканскай традыцыі быў пахаваны ў роднай вёсачцы.

## МАБУТУ FOREVER

Твары зьмяняюцца, культы застаюцца. Прыйшоўшы да ўлады, Кабіла зрабіў сваёй правай рукой Сакомбі Інонга, былога сьпічрайтэра і іміджмэйкера Мабуту. Той, "прасёкшы" сытуацыю, абвесьціў Кабілу сапраўдным богам і патлумачыў свой хаўрус з Мабуту ўплывам злых духаў. Усё пачалося нанова, хіба што Кабіла, гуляючы на кантрасьце, супрацьпаставіў пампезнасьці папярэдніка сваю простасьць, выходзячы да натоўпу ў сьціплай баваўнянай кашулі й белых кедах.

У 1999 годзе зьявіўся дакумэнтальны фільм бэльгійскага рэжысэра Мішэля "Мабуту, кароль Заіру" - "удалая спроба спасьцігнуць псыхалёгію дыктату", як адзначаюць кінакрытыкі. У Эўропе й Амэрыцы фільм застаўся амаль незаўважаным, а вось у Афрыцы, дзе ў кожнай другой дзяржаве сядзіць свой маленькі мабуту, ён меў неверагодны посьпех. Што праўда, у ДР Конга (былым Заіры) яго не дапусьцілі да пракату. Хаця, здавалася б, выкрыцьцё культу асобы - натуральнае наступства зьвяржэньня дыктатуры. Справа ў тым, што кангалезцы яшчэ не гатовыя ўсьвядоміць праўду пра сваё мінулае. Конга дагэтуль па вушы загрузнула ў эканамічнай стагнацыі і этнічна-кланавых войнах. Народ згубіў толькі адно - ілюзію шчасьлівага жыцьця пад абаронай Вялікага Бацькі Мабуту.

**ДЭМАКРАТЫЧНАЯ РЭСПУБЛІКА КОНГА**
**/REPUBLIQUE DEMOCRATIQUE DU CONGO/**
геаграфічныя каардынаты: 00-00 шыр., 25-00 усх. даўж., лінія экватару падзяляе краіну напалам;
плошча: 2.345.410 км кв.;
клімат: трапічны, большую частку тэрыторыі краіны займае басэйн ракі Конга;
міжнародны код: CG;
**былыя назвы**: Бэльгійскае Конга, Конга/Леапольдвіль, Конга/Кіншаса, Заір;
сталіца: Кіншаса (да 1966 г. - Леапольдвіль);
нацыянальная валюта: заір, новы заір, з 1998 г. - кангалескі франк, 1 кангалескі франк = 100.000 новых заіраў;
прыродныя багацьці: кобальт, медзь, кадмій, нафта, прамысловыя й каштоўныя дыямэнты, золата, срэбра, цынк, марганец, волава, германій, уран, радый, баксыт, жалезная руда, вугаль, лес, гідраэнэргія;
этнічныя групы: каля 200, зь іх банту (монга, луба, конга) - 46%, мангбэду-азандэ і інш. - 54%;
мовы: афіцыйная - французская, міжэтнічных зносінаў - лінгала, кінгвана, кіконда , чылуба;
рэлігіі: рыма-каталіцкая - 50%, пратэстанцкая - 20%, кімбангізм - 10%, іслам - 10%, сынкрэтычныя культы й традыцыйныя вераваньні - 10%.

# РЭЧЫ І ЧАЛАВЕКІ










**Чалавек урастае ў сьвет рэчаў, рэчы ўрастаюць у сьвядомасьць чалавека. Культ рэчы – гістарычны й міталягічны: рэчы спакон веку ўсьведамляліся жывымі субстанцыямі (як, зрэшты, і прыродныя матэрыялы, зь якіх яны ствараліся). Значнасьць сучасных рэчаў–забавак зьвязаная з фэномэнамі грамадзкага дастатку і масавага спажываньня.**

**Перайначаная функцыянальнасьць**

На першы погляд, забаўка - гэта рэч, пазбаўленая функцыянальнасьці. На самой справе яна зьмяняе сваю функцыю і становіцца прадстаўніком грамадзтва як адзінага арганізму. Паводле Бадрыяра, гэты арганізм адорвае сваіх чальцоў прадметамі, якія дэманструюць лёгкасьць і бесклапотнасьць жыцьця.

Цікавы прыклад "перакладу" функцыянальнасьці забаўкі ў іншы плян - дэсакралізацыя і дэміталягізацыя рэчы. Тая ж руска-савецкая матрошка: як народная цацка яна адлюстроўвала архаічны міт пра крэўна-роднасную сувязь пакаленьняў па мацярынскай лініі, як сувэнір - міт пра "славянскую ідэю" (альбо пародыю на яго - калі самая вялікая матрошка ўвасабляла Гарбачова, меншая - Чарненку, потым - Андропава, Брэжнева і г.д.). Падвесак-матрошка ўжо не разьбіраецца на часткі, размалёўваецца ён умоўна і быццам бы "нічога ня значыць". Яго значнасьць - у сэрыйнасьці й адсутнасьці ўстаноўленага наперад знаку.





Іншы шлях, якім рэч-забаўка пазбаўляецца сымболікі, - "зьніжэньне" (не абавязкова парадыйнае). Гэта рознага кшталту расьпяцьці-ножычкі альбо мініятурныя чарапы з бутафорскімі крывавымі падцёкамі.

**Матэрыял і колер**

Матэрыял увасабляе імкненьне да "тэхнагеннай" дасканаласьці цывілізацыі. Падвескі найчасьцей робяцца зь непрыродных матэрыялаў: шкло і плястык - намёк на "празрыстыя" стыхіі, паветра і ваду; гума - "замяшчальнік" дрэва і г.д.

Колер робіцца функцыянальным у рэклямных падвесках, дзе выкарыстоўваюцца крыклівыя, безадценьневыя фарбы. Часам межы паміж імі малююць чорнымі лініямі.

**Форма: гладкасьць, простасьць, мініятурнасьць**

З аднаго боку, гладкасьць і простасьць формаў падвескаў замяшчаюць страчаную функцыянальнасьць. Адмова ад вычварнасьці ў лініях абумоўленая сэрыйнасьцю, масавасьцю рэчы-забаўкі.

Зь іншага боку, гладкасьць і простасьць увасабляюць імкненьне грамадзтва да абсалюту: гэта шлях у сьвет, дзе машына можа ствараць машыну, рух да ідэальнай, звышпаняткавай хуткасьці, якая зьнішчае час і прастору. Гэта Бог, якім імкнецца стаць грамадзтва.

Канвэер стварае для чалавека камфортныя рэчы. Зручнасьць падвеска - у яго мініятурнасьці. Ён кладзецца ў руку, упісваецца ў яе ўнутраную прастору. Ты можаш трымаць у кулаку ўвесь Нью-Ёрк, можаш пакласьці на далонь сэрца (нічога не нагадвае?) - сымбаль Каханьня і Любові. Ты пазіраеш на іх, як Бог. Цяпер твае магчымасьці бязьмежныя. Ты набываеш ЗНАЧНАСЬЦЬ.










тэкст: AlexX

*Любко Дэрэш*

# КУЛЬТ

*урыўкі з раману*

Прадмова й пераклад з украінскай Андрэя Хадановіча.
Паводле: Любко Дереш. Культ. Львів-Київ, 2002.





***"Даяна, толькі што прачытаў раман Любка Дэрэша "Культ". Устаўляе, амаль як чарніцавы пірог з кляновым сыропам!"*** *Так, у стылі справаздачы агента Купэра, магла б пачынацца рэцэнзія на гэты літаратурны опус. Але сёньняшняя публіка рэдка чытае нешта даўжэйшае за рэклямны сьлёган, таму пачаць можна так: "Любко Дэрэш: каўбасіць - не паверыш!" Альбо: "Націсьні на пульцік, глядзі мульцік-"Кульцік".*

*Глядзець, безумоўна, варта. Вось яшчэ адзін (пасьля Андруховіча й Іздрыка) сучасны раман, які адназначна заслугоўвае быць перакладзеным з украінскай на наскую. І гэта пры тым, што аўтару ледзь стукнула 18 і ён толькі нядаўна атрымаў законнае права на ўсе тыя прыемнасьці, якія апісвае ў "Кульце". А апісвае ён з такім смакам, што можна толькі пазайздросьціць украінамоўнаму падлетку. Калі "чорны" чалавек беларускага пісьменства можа замовіць айчыннаму генію максымум рэквіем для бэнзапілы, дык гэты Моцарт/вундэркінд/аксэлерат (непатрэбнае закрэсьліць) ужо набыў сваю лесапілку, перапіліўшы ў дробнае пілавіньне ўсе вынікі дзесяцігадовых постмадэрніцкіх пошукаў украінскай літаратуры.*

*Любко Дэрэш робіць тое самае, што зрабіў у пасьляваеннай Францыі пісьменьнік Барыс Віян, падарыўшы ачмурэлай ад экзыстэнцыялісцкага мудрагельства публіцы раман (прычым далёка не бульварны!), разьлічаны на шырокага і найперш маладога чытача, на чалавека, стомленага вялікай ідэалёгіяй і барацьбой немаведама за што. Юныя "бэндэраўцы" Дэрэша не прамаўляюць патрыятычных лёзунгаў і нават бязбожна скажаюць старую паўстанцкую песьню. Гэта звычайныя сучасныя падлеткі са сваімі інтарэсамі - музычнымі, сэксуальнымі, растаманскімі. Але тут яны цьвёрда "бароняць гнёзды свае": іх раздражняе, калі дзяўчаты кажуць "прівет" замест "прывіт", а аднагодкаў, што сьпяваюць расейскую папсу, яны гатовыя парваць, як тузікаў.*

*Падзеі раману пачынаюцца як звычайная бытавая гісторыя ў непрыкметным заходне-ўкраінскім Твін-Піксе (калі дакладна, у Медных Буках). Львоўскі студэнт-біёляг трапляе на пэдагагічную практыку ў мясцовы каледж. І ТРАПЛЯЕ як мае быць... Бо раптам ледзь ня ў кожным з калегаў прачынаецца доктар Лектар, у школьнай сталоўцы пачынае патыхаць канібалізмам, нявінны цыркуль робіцца прыладай для рафінаванага забойства, а сьціплы вартаўнік выяўляецца Фрэдзі Кругерам, здольным валадарыць ня толькі ў дзіцячых снах. Таму не пытайцеся, хто забіў Лору Палмэр. Актуальнымі ў каледжы робяцца значна больш сур'ёзныя праблемы.*

*Справа ў тым, што паміж нашай рэальнасьцю й іншымі сусьветамі (зусім як у Кінга) існуюць дзьверы, якія можна адчыняць і зачыняць, і Зло ўжо ірвецца да нас. А таму мусіць зьявіцца Гары Потэр у спадніцы (джынсавым камбінэзоне, калі ўжо дакладна), які ў чарговы раз выратуе сьвет. І яна знаходзіцца - маленькая дзяўчынка Дарця зь мянушкаю "Борхес" - Пяты Элемэнт, сама дасканаласьць. Менавіта яна абароніць Браму нашага сьвету, як дасьведчаны галкіпэр, што адбівае сэрыю пасьляматчавых пэнальці.*

*Вясёлая падлеткавая камэдыя ператвараецца ў містычны трылер так хутка, што не заўважаеш, калі гэта аўтар пасьпеў націснуць на пульт і пераключыць канал. Здаецца, чытач, пакутуючы на чарговы "бадун", прапусьціў урачысты школьны ранішнік-апакаліпсіс, які весела адсьвяткавалі безь яго. Вось так. Кіна ня будзе. Засталася толькі гэтая сьценаграма. Разгортваеш, а там - устаць, суд ідзе!*

*Страшны суд.*

*Суд Лінча.*

*Дэвіда.*

*Карацей, мама, інсталюй мяне назад!*

***(Чырвоная заслона. Гучыць пахавальны марш... Анджэла Бадаламэнці.)***

У суботу "Аленевая Скура" віравала ад узбуджэньня. Банзай прапхаўся праз натоўпы *дзяцішак* у белых кашулях (чорных скураных "касухах"), напрасаваных *штанішках* (падзертых джынсах), якія ганялі з букетамі кветак у руках і цягалі ў спартзалю, дзе мела адбывацца дзейства, парты й крэслы. Ён казаў знаёмым "Дабрыдзень" ці "Прывітаньне" альбо проста ціснуў невядома чыю працягнутую "клюшню".

/.../

Каля акна ў спартзалі тырчэла група ягоных амаль што аднагодкаў, якія рабілі немаведама што. Магчыма, прыйшлі сустрэць старых знаёмых ды адчуць настальгію па старых часах. Банзай падышоў да тусоўкі й павітаўся з кожным асобна. Ён добра ведаў іх усіх: Гадэна, што не паленаваўся прыехаць з утапічна-нерэальнага містычнага Бадэн-Гадэна - гораду паэтаў, дармовых гетэраў ды антыкварыяту, Шкраба (ён жа д'Армаед), які забаўляў публіку нэабітніцкай лірыкай, Флойда Марфінскага, Каспэра, Нэсквіка, Ржэпа, Дзімачкінса ды Скіда. Дзімачкінс, прадстаўляючыся, заўжды казаў: "Прывітаньне, мяне завуць Дзімачкінс, я напісаў "ВОРС" і лабаю "Каноплі".

Зрэшты, кожны з вас ведае, хто такі Дзімачкінс. Дзімачкінса ведаюць усе.

/.../

Юрку замахаў Дзіма, кажучы тым самым, што падрыхтаваў месьцейка. Хоцькі-няхоцькі давялося сядаць у адзін зь пярэдніх радоў, зарэзэрваваных для выкладчыцкай эліты й вядучых.

Усе павольна пацягнуліся ў залю. На сцэну выйшаў пан Андрый; адкашляўшыся, ён красамоўна замаўчаў.

Пан Андрый маўчаў так доўга, што, здавалася, ён задумаў паўтарыць нашумелую п'есу "3.24" (гэта калі піяніст нерухома сядзіць перад фартэпіяна й выконвае ЦІШЫНЮ; ЦІШЫНЯ, у сваю чаргу, выконваецца гледачамі, іх бурчатам, шэптам, чвяканьнем, скрогатам, рыпеньнем крэслаў і г.д.); выяўляецца, што ён проста хацеў, каб усе заткнуліся.

Нарэшце сьціхла ўсё, толькі было чуваць, як Дзімачкінс ціхусенька падвывае свае "Каноплі" недзе ў задніх плябейскіх радах.

Пачалася доўгая, занудная, патэтычная, эклектычная ды надзвычай бязглуздая прамова, што месцамі няўдала-вострай сатырай нагадвала выкрывальную філіпіку (настаўніцы ангельскай мовы, якіх філіпіка выкрывала ад-



*Покуль маці ля калыскі*
*Выцірала соплі,*
*Бацька-гіпі ў драных джынсах*
*Гойсаў у каноплі.*

*Гіпаваў ягоны бацька*
*Й пра сыноў ня ведаў:*
*Першы ў гопнікі пайшоў,*
*Другі - да скінхэдаў...*



Другая нечаканая непадзяванка хутчэй раздражняла, чым надавала алегорыі. Невялічкі хор хлопчыкаў перасьпяваўся зь невялічкім хорам дзяўчатак расейскай. "Падаждём маю маму?" - пыталіся дзеўкі. "Падаждём. Тваю маць"... - адказвалі мальцы. Банзаю страшна закарцела кінуцца на сцэну й пакусаць зубамі як мага болей сьпевакоў. Але так файна пакусаць, так, каб потым швы накладалі. Каб ведалі.





## /.../

Апошні тыдзень быў адзначаны тым, што якасьць мяса ў сталоўцы рэзка палепшылася: яно зрабілася нашмат больш далікатным і сакавітым. І надзвычай салодкім, як цяляціна.

А яшчэ бясьсьледна зьнік іх аднакласьнік, Лёўка Кабздох, то бок нібыта зьлёг з грыпам, але ніхто не быў упэўнены ў гэтым на ўсе сто. Нікому не хацелася зьвязваць першую падзею з другой.

Заўчора Павук крыху прыпазьніўся на раздачу ежы сваёй клясы, так што мусіў прасіць, каб нядобрая пані Сьвета выдзеліла яму яшчэ адну порцыю. Пані Сьвета была далёка ня самым прыемным чалавекам у каледжы - яна вельмі нагадвала нізенькую дзежку з квашанай капустай (пахла яна, дарэчы, менавіта так). Верхнюю губу й падбародзьдзе пані Сьветы пакрывала дробнае калючае шчэцьце.

Павук падышоў да акенца, дзе раздаваліся порцыі. Паведаміў, зь якой ён клясы, і сказаў, што ня супраць атрымаць сваю порцыю.

Пані Сьвета (гэтае імя ўсе вымаўлялі як "пані Швета") падазрона паглядзела на яго й нешта буркнула сабе пад нос: "Ня маю часу, іншыя дзеці просяць кушанькаць".

Тым ня менш, Павук працягваў стаяць пры акенцы, чакаючы порцыю. Ён уважліва сачыў за рухамі кухаркі, хуткімі, дакладнымі й крыху драпежнымі.

Яна адставіла ўбок адну талерку, працягваючы накладваць у іншыя гуляш з агульнага чана. Потым наліла гуляш і ў адстаўленую місу, але ўжо зь іншага, нашмат меншага чопу, памерамі зь вядро.

"Мабыць, для настаўніцкай эліты", - падумаў Павук.

Пасьля талеркі зьмяшаліся, але Павук трымаў тую асаблівую (тры шчарбіны ў рад - "Бог любіць тройцу", - згадаў Павук) на прыцэле. Пані Швета працягвала перастаўляць талеркі (намагалася заблытаць яго, ці што?), нібы гуляла ў "пятнашкі". Потым павярнулася да акенца сьпінай, такім чынам засланяючы яго сабою, і пасыпала ўсё зьверху сольлю.

Да пані Швеьы падыйшла маладзейшая, але такая самая поўная кухарка й хацела пакаштаваць гуляш з адной талеркі (мабыць, з той самай). Але шэф-кухарка ўдарыла яе па руцэ й пакруціла пальцам-сардэлькаю каля скроні: "Ты што, зусім ужо здурнела? - спытала яна тую, неабачліва. - Гэта ж..." (тут Павук не разабраў, бо на патэльні засквархэла масла).

Малодшая кухарка спалохана адскочыла й пабегла ўглыб кухні. Павук зазірнуў у акенца і ўбачыў, што яна панічна адмывае рукі гаспадарчым мылам.

Пані Швета рабіла выгляд, што не заўважае галоднага хлопца з інтэрната. Тая загадкавая талерка стаяла, нічым не выдзяляючыся, паміж іншых порцыяў, хіба што вышчарбленая больш за іх. Павуковы жывот голасна забурчаў, бо пах гуляшу лашчыў і цьвеліў ноздры. Шэф-кухарка крадком кідала на яго насьцярожаныя позіркі з-пад ілба, разьмешваючы доўгай лыжкай грачаную кашу; яна меркавала, што Павук не заўважае тых позіркаў.

Раптам пані Швета разагнула сьпіну, утыкнуўшы алеістыя рукі сабе ў бакі. Павярнула галаву да акна й зьдзіўлена-радасным тонам сказала:

- А! Гэта зноўку ты! На вось, бяры сабе якую хочаш порцыю, пакуль дзеці не прыйшлі! Бяры - мне не шкада!

Павук яшчэ ні разу ня бачыў, каб пані Швета ўсьміхалася так радасна.

Кухарка працягнула руку й дала Павуку менавіта тую талерку, за якой ён уважліва сачыў. Павук неспадзявана для сябе спалохаўся:

- А чаму вы далі мне менавіта тую порцыю?

- Што? Га? - зрабіла выгляд, што не разабрала, кухарка. У яе вачах палахнула лёгкае зьдзіўленьне й раздражненьне.

І падазрэньне, як яму тады здалося.

- Я пытаю, чаму вы далі мне менавіта тую порцыю? - ужо больш голасна паўтарыў хлопец.

Кухарка незадаволена прыкусіла тоўстыя вусны.

- Нічога я не выбірала. Узяла першую-лепшую... Хочаш - выберы сабе сам.

- Вось тую, - Павук паказаў пальцам на суседнюю талерку.

Кухарка паціснула плячыма і ўзяла ў рукі азначаную порцыю.

- А вунь і Андрый Яраслававіч, - нібы проста так кінула тая. Павук зірнуў цераз плячо. Сапраўды, у сталоўку крочыў пан Андрый.

Ён ізноў павярнуўся, ужо гатовы ўзяць порцыю, калі вочы распазналі знаёмы ўзор і тры шчарбіны запар - як на той талерцы.

У гэтую хвіліну Павук і адчуў, быццам спаўзае ў бездань.

- Прабачце, - ізноў прамовіў ён вельмі нясьмела, - а можна іншую порцыю?

Пані Швета паглядзела на яго забойчым позіркам і павольна пакруціла галавою:

- Ну ўжо ведаеш, такі пан вялікі! Якую хацеў, такую й атрымаў! Паніч знайшоўся!

Павук з прысмакам медзі ў роце сеў за стол. Ён старанна вывучаў зьмесьціва талеркі. Нейк яно мусіла адрозьнівацца ад усіх іншых, але як? І ў чым НА-АГУЛ справа? Ён асьцярожна й непрыкметна зірнуў на пані Сьвету. Тая стаяла за плітой, слухала, што ёй кажа малодшая кухарка, а сама пільна сачыла за Павуком.

У жываце нешта запякло й стала вельмі голасна патрабаваць чымсьці набіць страўнік. Малец перасеў такім чынам, каб засланіць целам сваю ежу. І пачаў рабіць выгляд, што ўмінае за абедзьве шчакі. Хвіліны праз тры ён аднёс талерку, поўную пахучага гуляшу, што вабіў сваім мясным перчаным водарам, да іншага акенца, куды ставіўся брудны посуд.

Яго няспынна мучылі два пытаньні - куды падзеўся Кабздох і зь якой радасьці ім пачалі штодня даваць мяса?



## /.../

Цалкам зьнясіленая, Дарця ўпала на калені й рэштамі сілы вярнула сьненьне. Яна спусьцілася на самае дно - у тунэль.

Дарця зазірнула ў Корыевы калідор. Ад убачанага скуру прадзер мароз: брама для Ёг-Сатота вырасла да нечуваных памераў, высокая й шырокая, бы шматпавярховы будынак.

Вялікі Чарвяк праціскаўся празь яе, сеяў вакол сябе крышталізуючы жах, размахваў бледнымі валасатымі мацунамі. Ён ужо запоўніў дзьве траціны калідору і поўз далей. І далей. І ДАЛЕЙ.

Дарця - стомленае, зьнясіленае дзяўчо ў мокрым ад наліплага сьнегу швэдрыку - моцна заплюшчыла вочы й добра-добра прыгледзелася да дзьвярэй.

А потым адным рухам думкі разнасьцежыла іх.

Выбуховая хваля белага сьвятла зьмяла сьпярша ўсю яе сьвядомасьць, а потым прарвалася праз вочы, рот, ноздры, кожную пору яе цела вонкі.

І Дарця ўбачыла, як асыпаецца рэальнасьць - нібы разьбітае люстра, што ападае кавалкамі, зьнікаючы ў вечнасьці. Яны перанесьліся ў прастору па-за ўсімі рэальнасьцямі, у месца, дзе адбываліся Гульні на Палёх Усявышняга, у

*макракосм.*

*Дарця была староньнім гледачом, а дакладней - ДЗЬВЯРЫМА, якія выпусьцілі ў макракосм нязьведаную сілу, што жыла ў белым сьвятле.*

*У прасторы па-за ўсякімі сьценамі й дзьвярыма. У прасторы Не-Быцьця сышліся дзьве сілы.*

*Дарця бачыла энэргіі (яна страціла адчуваньне ўсякіх межаў, межаў паміж унутраным ды вонкавым, сабою ды Імі, тымі звышмагутнымі сіламі), супрацьлежныя адвечна варожыя энэргіі, што ў чарговы раз сышліся ў двубоі. Яна бачыла Ёг-Сатота, Вялікага Чарвяка, бачыла яго канчатковую форму вечнасьці, бледнага бясконцага шчаціністага Чарвяка, Ткача Рэальнасьці й Валадара Ценяў.*

*І яшчэ Дарця бачыла Дудара пры Браме Золку, бачыла і Ягоную сапраўдную форму й зразумела супрацьлежнасьць Яго энэргіі.*

*Была бітва Сілаў, і яна бачыла, як праносяцца наўкола іх у шалёным віры галяктыкі, туманнасьці, Сусьветы й Рэальнасьці, усё Быцьцё абарачалася вакол гэтай бітвы, нібыта вакол адзінаіснай Восі ва ўсіх часах і вымярэньнях.*

*А пасьля плынь белаьснежнага сьвятла ўзмацнілася, ірвучы Дарцю сваёй калясальнай магутнасьцю, і Дудар пры Браме Сьвітанку пачаў танчыць свой стражытны танец, Танец Стварэньня Сьвету, і белае сьвятло выбухнула, руйнуючы, змываючы й ачышчаючы ўсё суцэльна,*

*даючы нараджэньне новай зорцы і новаму сьвітанку. І Дарця бачыла Яго, у віры гукаў анёльскага хору, што рабіўся гучнейшым у прадчуваньні Цуду,*

*бачыла Дудара пры Браме Золку.*

*Нехта ўжо прызвычаіўся да дзіцячага ...*

# "PERSONAL DEPECHE" WHEN THE BODYS SPEAKS

тэкст: Аля Наваселіч

**Цэлы год напружанай працы спатрэбіўся, каб беларускі трыб'ют Depeche Mode убачыў сьвет. "Personal Depeche" - другое ў гісторыі беларускай альтэрнатыўнай музыкі пасьля "Песьнярку" "афіцыйнае прысьвячэньне" культавай камандзе. Але бадай што №1, калі ўлічыць, колькі чутак, плётак, містыфікацыяў было вакол "беларускіх дэпэшаў"...**

## "PERSONAL DEPECHE"

Гэта 15 кампазыцыяў беларускіх выканаўцаў і гуртоў, якія зрабілі свае вэрсіі песень культавай брытанскай каманды. Шаснаццаты ўдзельнік - гурт "Крама" - папросту не пасьпеў дарабіць "Enjoy The Silence" да прызначанага deadline. Апошні быў надзвычай важным элемэнтам, бо ўстанаўліваўся ў тым ліку самімі "дэпэшамі", а менавіта Мартынам Горам. Ніводнага кроку беларусы ня мелі права зрабіць бяз згоды праваўладальніка запісаў EMI Music Publishing, але гульня каштавала сьвечак: "дэпэшам" спадабаўся ўвесь прадстаўлены матэрыял, і зараз у сьпіс заслугаў айчынныя музыкі могуць запісваць: "Нашую музыку ўпадабалі Depeche Mode.

## БУХГАЛЬТЭРЫЯ ПРАЕКТУ

Для пакупніка яна стане відавочнай ужо ў краме. "Personal Depeche" выйдзе ў двух варыянтах. Першы і самы галоўны - шык-варыянт. "Бокс" у ім будзе зроблены з кардону, у самім "боксе" будзе нешта накшталт кніжкі - 24-старонкавы буклет з тэкстамі і работамі вядомых беларускіх мастакоў, якія такім чынам данесьлі сваё бачаньне творчасьці DM. Уся гэтая "радасьць" пацягне на 30 бэ. Як кажуць прадстаўнікі прадусарскай каманды "Personal Depeche", "яно таго вартае". Для тых, хто так ня лічыць, будзе выдадзены "аблегчаны" варыянт "Personal Depeche" - без усялякіх адмысловых малюнкаў і ў плястыку па кошце, набліжаным да рэальнага.

Прадусары кажуць, што высокія кошты на дыск цалкам апраўданыя - грошай на праект пайшло незьлічона. Адна толькі сума аўтарскага ганарару DM (дакладная яе велічыня - камэрцыйная тайна) у некалькі разоў перавышае тыя грошы, што можна затраціць на запіс 15 трэкаў у самай дарагой студыі Беларусі. Па чутках, на запіс і ганарары беларускім музыкам было выдаткавана каля 5 тыс. амэрыканскіх рублёў, то бок разам з "дэпэшаўскім" ганарарам праект пацягнуў на дзясяткі тысячаў...

## DM У БЕЛАРУСІ!

Гэта і зараз - толькі мара. Акрамя таго, што прэзэнтацыя "Personal Depeche" адкладаецца на нявызначаны тэрмін, дык высьветлілася, што прыезду DM у Менск нам чакаць і чакаць...

Прадусары беларускага трыб'юту кажуць, што гэта немагчыма зрабіць з-за таго, што Гор і Гэхан толькі што скончылі працу над уласнымі сольнікамі. Адзінае, што абяцаюць - вуснае відэапрывітаньне ад DM на прэзэнтацыі "Personal Depeche".

Зараз у плянах мэнэджэрскай каманды - прывезьці ў Беларусь удзельнікаў аналягічных праектаў з Расеі ды Эстоніі - то бок чакайце заўсёдных "легендаў рус-року" замест нармальнага Гора... Хаця як сказаў адзін з прадусараў "Personal Depeche" Руслан Макараў, той самы Мартын паабяцаў прыехаць у Беларусь са сваёй сольнай праграмай. Абяцанкі-цацанкі?..

## ШТО АДКУЛЬ

Паводле схемы "беларус/песьня/арыгінал DM/альбом/год выхаду".

1. Аляксей Шэдзько - "Dream on" (альбом "Exciter", 2001);
2. Нейро Дюбель & GUDA - "I Feel You" (альбом "Songs Of Faith & Devotion", 1993);
3. Flat - "Dead Of Night" (альбом "Exciter", 2001);
4. Impatt - "In Your Room" (альбом "Songs Of Faith & Devotion", 1993);
5. Ляпис Трубецкой - "Вопрос времени" (у арыгінале "Question Of Time", альбом "Black Celebration", 1986);
6. Apple Tea - "It's No Good" (альбом "Ultra", 1997);
7. Людмила - "Увидеться вновь" (у арыгінале "See you", альбом "Broken Frame", 1982);
8. Тройца - "Free State" (альбом "Ultra", 1997);
9. Гаер і Аляксандар Памідораў - "Never Let Me Down Again" (альбом "Music For The Masses", 1987);
10. Kriwi - "Бяз гучных словаў" (у арыгінале "Freelove", альбом "Exciter", 2001);
11. N.R.M. - "Твой Езус" (у арыгінале "Personal Jesus", альбом "Violator", 1990);
12. Zet - "Марны" (у арыгінале "Useless", альбом "Ultra",1997);
13. Haracknja - "Адчуваю" (у арыгінале "I Feel You", альбом "Songs Of Faith & Devotion", 1993);
14. Тодар - "I Want You Now" (альбом "Music For The Masses", 1987);
15. Кали Юга - "В прицеле моего ружья" (у арыгінале "Barrel Of a Gun", альбом "Ultra", 1997).

## I AM YOU

**Лявон Вольскі, N.R.M.:**

- Я заўжды вельмі роўна дыхаў да DM. Каб калекцыянаваць, адсочваць альбом за альбомам ці добра разьбірацца ў іх творчасьці - такога ніколі не было. У маім юнацтве, падчас піку папулярнасьці DM, я быў у лягеры больш цяжкай музыкі. Хаця некалькі песень з рэпэртуару DM мне падабаліся даўно, гэта тычыцца, у прыватнасьці, "Personal Jesus". І калі ў мяне запыталіся "Што ты хочаш выканаць?", я адразу назваў яе.

Бадай што зараз, па наведваньні сходаў менскага фэн-клюбу DM, я ўбачыў, што гэта сапраўды сур'ёзная культавая каманда сусьветнага маштабу. Ёсьць каманды, якія цалкам самадастатковыя - DM якраз такая. Хутчэй за ўсё, яны энэргетычна ўплываюць на нас - гэта як спосаб данясеньня сваёй думкі. А каб хтосьці зь беларусаў "касіў" пад DM ці карыстаўся іх музычнымі прыёмамі - такога я ў нашай музыцы не заўважаў. Можа, папросту вельмі рэдка сутыкаюся з прадстаўнікамі электроннай музыкі?..

...Падчас працы над кавэрам галоўнае - зрабіць так, каб не было падобна да арыгіналу, і ў той жа час каб песьня гучала і музыка ня шкодзіла тэксту. N.R.M. пастараліся вытрымаць усе гэтыя пазыцыі. Хаця ў СМІ сустракаюцца меркаваньні, што ў нас атрымалася слаба - мне так не падаецца.

**Людміла:**

- Я заўсёды лічыла DM культавай камандай, але фанаткай ніколі не была. Мне падаецца, гэта містычны гурт, ён узьдзейнічае на падсьвядомасьць слухача. Калі казаць пра ўплывы, то гэта залежыць ад таго, якую вы музыку граеце. На тых, хто любіць DM, яны безумоўна ўплываюць. Мне падчас выбару кампазыцыі адразу прыгадаліся 3-4 песьні са старога, клясычнага "дэпэшу". Зь іх мы і выбіралі, што падыходзіць жаночаму вобразу.

Самым прыемным у працы над кампазыцыяй быў хуткі вынік. Хаця гэта і працай называць ня хочацца: я нават не пасьпела як сьлед "замучыць" песьню, ставілася да ўсяго гэтага хутчэй як да экспэрымэнту. Напэўна таму "See You" і атрымалася лёгкай і ненадакучлівай.

Мне пашанцавала з аўтарам рускай вэрсіі тэксту - зь Сяргеем Філімонавым (на СТБ мы разам вядзем "Новости мировой шоу-индустрии"), які браў удзел у адборы песьні-кандыдата, а таксама з аранжыроўшчыкам Максам Алейнікавым, які, я ведала, вельмі любіць DM.

**Аляксандар Кульлінковіч, "Нейро Дюбель":**

- Ніколі не далучаў сябе да прыхільнікаў DM і ня маю ніводнага іх альбома.

"I Feel You" была абраная абсалютна выпадкова. На той час ужо было вядома, што некаторыя песьні хтосьці ўзяўся рабіць, таму над імі ўжо нецікава было працаваць - будуць параўноўваць ня толькі з DM, але яшчэ і зь іншай камандай. Мы перабіралі песьні, якія былі адносна свабодныя (праўда, потым высьветлілася, што і Піт Паўлаў зрабіў сваю "I Feel You").

Першапачаткова мы мелі фальклёрныя вакальныя партыі гурта Guda, і ўжо пад гэта мы падбіралі ўсё астатняе: і аранжыроўку, і, па

вялікім рахунку, песьню. Спрабавалі розныя варыянты: і твіст, і джазавыя "фішкі", і просты рок-н-рольчык, у тым ліку і такі цяжкі варыянт - мы яго назвалі "немцы на Палесьсі".

**Павал Булатнікаў, "Ляпис Трубецкой"**

DM мне страшэнна падабаліся яшчэ ў юнацтве. Так што на ўдзел у гэтым праекце я пагадзіўся яшчэ і па асабістых матывах - мне гэта было блізка і цікава.

Перш за ўсё я хацеў, каб слухач пачуў менавіта гурт "Ляпис Трубецкой", каб было што граць дудкам, каб было больш-менш весела, бо музыку DM вясёлай назваць цяжка. І мне падалося, што кампазыцыя "Question of time" будзе добра ўпрыгожаная нашай духавой сэкцыяй.

Па праўдзе, мы не асабліва мудрылі над ёй - усё зрабілі вельмі хутка. Адзіная складанасьць узьнікла з тэкстам: акрамя таго, што DM цяжка прасьпяваць па-расейску, дык адной з галоўных умоваў было, каб сэнс песьні застаўся тым жа. Таму да працы спрычыніліся многія людзі - перакладалі, карэктавалі, і ў выніку атрымаўся такі вось тэкст.

## "MINSK DEVOTEES"
### пасланцы DM у Беларусі

Было б наіўна думаць, што самыя адданыя прыхільнікі творчасьці DM застануцца ўбаку ад грандыёзнай справы. Пра ролю менскага фэн-клюбу DM "Minsk Devotees" распавядае кіраўнік Максім Гайко.

**– Як ідэя праекту "Personal Depeche" дайшла да вашага клюбу?**

- Я пачну крыху здалёк. Ідэя самога фэн-клюбу нарадзілася ў сьветлай галаве ды-джэя "Радыё "Рокс" Адама Старповіча, а падчас паездкі на канцэрт DM у Варшаву ў 2001 годзе ён яе агучыў. Безумоўна, большасьць людзей, якія езьдзілі на гэты канцэрт, успрынялі яе з натхненьнем. Мы дамовіліся падтрымліваць кантакты і не губляцца. Прайшоў час, і на вечарынцы ў "Буда-бары" 9 траўня, у дзень народзінаў фронтмэна DM Дэйва Гэхана, Адам заклікаў нас пад штандары - тады мы і даведаліся пра задуманы праект, а некаторыя з кампазыцыяў пачулі.

Падчас рэалізацыі праекту "Personal Depeche" нашая дапамога была хутчэй маральна-падтрымліваючага кшталту. Хаця два сябры нашага фэн-клюбу - Ілона і Вольга - перакладалі варыянты тэкстаў беларускіх музыкаў на ангельскую, каб Мартын Гор упэўніўся, што гэта менавіта яго лірыка, што яе сэнс захаваны.

**– Ці былі значныя разыходжаньні ў поглядах адносна праекту ў прадусарскай каманды і "Minsk Devotees"?**

- Не-а. Па-першае, таму што нас асабліва і не пыталі, а напачатку да працы наагул не заклікалі. А па-другое, таму што ў дадзеным выпадку прадусарская каманда стала гэткім зладжаным арганізмам, які выдатна з усім спраўляўся і спраўляецца. Я мяркую, што ў падобных грандыёзных справах вялікая колькасьць "памочнікаў" хутчэй перашкаджае нармальнай працы. Але ж мы вельмі задаволеныя, что часьцінка славы дасталася і нам. Мы заўсёды радыя і гатовыя дапамагчы ў справе папулярызацыі гурта DM у нашай краіне.

**– Як Вы ацэньваеце канчатковы прадукт – "Personal Depeche"?**

- Асабіста мне ён вельмі спадабаўся. Я для сябе адкрыў некаторых айчынных выканаўцаў. Ну і, вядома ж, як вялікі прыхільнік DM я крыху па-іншаму ўбачыў музыку і тэксты Гора. Вельмі ўзрадавала, што шмат песень выканана па-беларуску, бо атрымаўся насамрэч беларускі трыб'ют - арыгінальны і самабытны.

Безумоўна, №1 у маім сьпісе "Ляпис Трубецкой" - вельмі дакладна адчутая энэргетыка песьні. Потым ідзе "Кали Юга" - "В прицеле твоего ружья" - песьня, блізкая да арыгінальнага гучаньня DM, з цудоўным перакладам і надзвычайнай ігрой музыкаў.

Далей ідуць Apple Tea зь інструмэнтальнай вэрсіяй "It's no good" - надзвычай яркая джазавая фантазія на даволі змрочную кампазыцыю "дэпэшаў". Для мяне гэта папросту адкрыцьцё - і Apple Tea як калектыву, і іх вэрсіі "It's no good".

Спадабалася Людміла - "Увидеться вновь". Нягледзячы на некаторую папсовасьць, гэта, на мой погляд, самы лірычны твор на дыску. Прыемны вакал і ненадакучлівая музыка, плюс удалы пераклад.

А наагул, я наўрад ці буду праграмаваць CD на пэўныя кампазыцыі - буду слухаць дыск цалкам.



METROPOLITAN MODEL AGENCY
&
ЧАСОПІС СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА
РАСПАЧЫНАЮЦЬ
КОНКУРС МАДЭЛЯЎ
CD-MODEL part 2
пераможцу чакаюць:
• прызы ад спонсараў
• фатаспробы ў сусьветна вядомай агенцыі METROPOLITAN MODEL AGENCY у Парыжы
Проста патэлефануй
(017) 226-98-24
альбо дашлі сваё фота (ці відэа)
на адрас: пр.Машэрава, 19
оф. 21 - 22, 220004, Менск
www.metropolitanminsk.ru
УМОВЫ:
- узрост: 15-23 гады
-рост: 172см і вышэй
ГЕНЭРАЛЬНЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ПАРТНЭР
ПЕРШЫ МУЗЫЧНЫ КАНАЛ
КРАВТ ПАРФЮМЕРИЯ КОСМЕТИКА
ОЛИМП ВЫСТАВОЧНЫЙ ЦЕНТР
EXTRA
intercars
KIKO
Levi's
4Enet ФОРЕНЭТ
DaaS computers
Мадэль Юля Кучэрына
Мадэль Таццяна Кудашкіна
Пераможца конкурсу "CD-MODEL part 1"
Мадэль Марыя Ліцьвіненка

**Прызы ад спонсараў конкурсу:**

ТАА **"КРАВТ"** (пр. Скарыны, 172, т.260-82-52, 268-01-80, факс 285-83-23), афіцыйны дыстрыбутар парфумэрных марак Yves Saint Laurent, Gucci, Rochas, Dunhill, Hugo Boss, Laura Biagiotti, Max Factor, Isadora, Pupa - дорыць пераможцы туалетную ваду любой з вышэйпералічаных фірмаў.

Фірма **"INTERCARS"** (пр. Машэрава, 19, Менск, каб. 1-6, т.226-93-05, 226-97-80) прэзэнтуе квіток "Менск-Парыж-Менск" для пераможцы конкурсу.

Крама **"EXTRA"** (Менск, пр.Скарыны, 43, т.288-20-36, "Подземка") прэзэнтуе модныя нагавіцы альбо спадніцу - на выбар.

Прадстаўніцтва кампаніі **"PHILIPS"** у Рэспубліцы Беларусь (Валадарскага 6, Менск, 220050) дорыць пераможцы фэн.

ЗАТ **"ФОРЕНЭТ"** (вул. Маскоўская, 20-519, Менск, т.210-25-20) дорыць пераможцы 50 гадзінаў працы ў інтэрнэце.

Выставачны цэнтар **"ОЛИМП"** (Менск, вул. Я.Коласа, 3, т.239-33-35) дорыць набор касмэтыкі.

Крама **"LEVI'S"** (Менск, пр.Скарыны, 48, т.288-25-62) дорыць джынсы на выбар.

Фірма **"DAAS"** (вул. Калініна, 7, к.55, пр. Скарыны, 93, п. 5, оф. 7 (цокальны паверх), т/ф 285-61-71, т.266-95-61, 269-10-50, www.daas.com) дорыць калёнкі Genius G06.

Усіх удзельніц конкурсу чакаюць сувэніры ад **Metropolitan Model Agency Minsk**. Да таго ж, ты маеш рэальны шанец трапіць у базу дадзеных Metropolitan Model Agency, а значыць, заявіць пра сябе ў мадэльным бізнэсе.

ВУПП **"ДАРИДА"** (п. Ждановічы, вул. Лінейная, 1А, т.509-90-93, 509-90-92) дорыць гадзіньнік зь фірмовым лягатыпам.

**"Первый Музыкальный канал"**- генэральны інфармацыйны партнэр.

# ТЭЗАЎРУС



## Блог

Blog, скарочанае ад web log. Сайт, які часта абнаўляецца і дае спасылкі на разнастайныя артыкулы ў Сеціве, а таксама прадастаўляе магчымасьць іх камэнтаваць. Цымус такога роду інфармацыйных праектаў (г.зв. "антыгазэтаў") не ў крэацыі новых інфармацыйных крыніцаў, але ў постмадэрновым зборы і "творчай перапрацоўцы" ўжо апублікаванага. Б, у залежнасьці ад інтарэсаў стваральнікаў, уяўляе сабой калекцыю спасылак на артыкулы па тых ці іншых тэмах - ад праграмаваньня і робататэхнікі да банальных навінна-інфармацыйных нагодаў.



Ідэя стварэньня Б высьпела на Захадзе ў сувязі з удасканаленьнем заканадаўства адносна інтэрнэту, а ў прыватнасьці - з паўсталай праблемай захаваньня аўтарскіх правоў. Тут усё цывільна - ніхто нічога не перадзірае, проста "кідаецца спасылка", і табе ня трэба лезьці ў пашукавік і пасьля фільтраваць знойдзенае. Галоўны плюс Б: ён дае ўдзельнікам магчымасьць ствараць сваё інфармацыйнае поле, бо аддае "вытворчыя плошчы" пад шматтысячазнакавыя абмеркаваньні той ці іншай публікацыі (найчасьцей аб'ём напісанага ў разьдзеле "Водгукі" ў дзясяткі разоў перавышае аб'ём зыходнага матэрыялу).

Ідэя простая, як два пальцы. Але папулярнымі Б зрабіліся толькі ў апошнія некалькі год. Калі ў 1998 Сеціва налічвала каля 30.000 WL, дык сёньня іх каля 500.000 (паводле Кэмэрана Марлоў, кіраўніка рэсурсу Blogdex).

Чаму "антыгазэта"? Па-першае, паводле спосабу падачы інфармацыі (ніхто не прэтэндуе на аўтарства і на пазыцыю "самага разумнага"). Па-другое, Б як альтэрнатыва афіцыйнаму друку не прапускае нагоды выправіць, удакладніць і высьмяяць напісанае ў афіцыёзнай прэсе (тым і жыве). Па-трэцяе, Б - ад пачатку не- і нават антыкамэрцыйны праект, існуе хіба што на камісійныя ад спасылак ды на ахвяраваньні зацікаўленых. Але - не без выключэньняў: Эндру Саліван (andrewsallivan.com) выхітраецца мець са свайго Б каля $5.000 у месяц, што ня можа не натхняць. А наагул дзякуючы вэблогам "разьдзяленьне паміж журналістам і аўдыторыяй размываецца" (Дэн Гілмар, San Jose Mercury News). Сьмерць аўтара, пра неабходнасьць якой так доўга казалі постмадэрністы, адбылася.

## Бэбі-бумэры

Анг. baby-boomers, ад baby-boom - выбух нараджальнасьці пасьля Другой Сусьветнай вайны.

Б сталі адной зь першых субкультураў канца XX ст., што зрабіла значны ўплыў на сучасную сытуацыю ў сьвеце наагул і на моладзевую культуру ў прыватнасьці. Пачатак фэномэна, як ня цяжка здагадацца, заклалі бацькі Б - змучаныя японцамі і доўгім устрыманьнем амэрыканскія салдаты і іх жонкі (сяброўкі, палюбоўніцы), якія засталіся ў Штатах чакаць сваіх герояў. Натуральны па заканчэньні любой вайны дэмаграфічны выбух супаў з апошняй стадыяй кансэрвацыі амэрыканскага грамадзтва - бацькі былі гатовыя на ўсё, каб іхныя дзеці ня зьведалі жахаў эканамічных крызысаў і камуністычнай чумы, нашэсьця нэграў і адсутнасьці вышэйшай адукацыі. Ідэальны дзіцёнак, па іх разуменьні, мусіў расьці ў дастатку, есьці поп-корн, глядзець тэлевізар па шэсьць гадзінаў на дзень і да т.п. Тое, што ў СССР некалі назвалі звычайным мяшчанствам, на Захадзе стала адным са штуршкоў да зьяўленьня новых нігілістаў - Б.



Большасьць зь іх - маладыя амэрыканцы і эўрапейцы - прысьвячалі ўвесь вольны час размовам пра кітайскі сацыялізм і трызьненьням пра перабудову сьвету, меншасьць найбольш апантаных лупілі копаў, пратэстуючы супраць віетнамскай вайны, муцілі "Студэнцкую Вясну", Вудсток і інш. Натуральна, не на сьветлую галаву: аказваецца, і Білі Клінтан папыхваў марыхуанай (вядома ж, "не зацягваўся"), а Білі Гейц вадзіў сяброўства зь Вялікім Гуру Ліры. Гэта не пашкодзіла першаму зрабіцца прэзыдэнтам, другому - манапалістам, усім астатнім - прыстойнымі япі, а потым - апранутымі ў падцяжкі бацькамі сямействаў. Менавіта на іх разьлічаная рэкляма Мэрсэдэса пад музычку Джэніс Джоплін: "Lord Won't You Buy Me a Mercedes-Benz". Менавіта яны зрабілі поп-зорак з Чэ Гевары і Хо Шы Міна, і менавіта іх, 40-60-гадовых, зараз называюць папі-бумэрамі.

Але далібог казаць пра тое, што яны "здалі з трыбухамі" ўсё сваё мінулае - гэта аблуда: паводле сьцьверджаньняў сацыёлягаў, менавіта з-за свайго "цяжкага юнацтва" састарэлыя Б больш лёгка знаходзяць агульную мову са сваімі дзецьмі, з-за гэтага не выкідаюць іх на вуліцу "на вольныя хлябы" і інш.

Што ў выніку атрымаецца з такіх "дзетак" і дзе ў рэшце рэшт апынуцца Б пэнсійнага веку - вось пытаньне...

## Біт

Ад анг. beat - удар, такт - музычны тэрмін, які ахоплівае вялікі панятак, сапраўдную філязофію музыкі другой паловы мінулага стагодзьдзя. Б стаў своеасаблівай мэсіяй, ён вызначыў і канчаткова зьмяніў спачатку музычны, а пазьней агульначалавечы рытм жыцьця, стаў прадвесьнікам новай эпохі, якую вызначаюць як "бум-бум-бум", ці "умца-умца-умца", ці... Каб пранікнуцца і адчуць глябальнасьць панятку, прасочым, як Б уплываў на музыку мінулага стагодзьдзя.

Біг-Б (big-beat), альбо проста Б-музыка - раньні брытанскі рок першай паловы 1960-х. Менавіта яна лягла ў аснову вядомай сёньня рок-музыкі. Паказальна, што музыказнаўцы дагэтуль не рызыкуюць вызначыць, калі "проста" Б-музыка стала рокам - так ці інакш відавочна, што Б-ая лінія надала року ўсеагульную папулярнасьць. Дзякуючы гэтай лініі нарадзіўся брэйк-Б (break-beat) - адзін з найбуйнейшых кірункаў электроннай сцэны.



Ён зьявіўся ў 1990-х як пераасэнсаваньне ідэяў хаўса і тэхна. Вынаходнікамі брэйк-Б лічацца сямідзясятнікі Кліў Кэмпбэл і Кул Херк, якія ўпершыню "выдралі" з рытмовай структуры песень зьбіўкі (брэйкі) і закальцавалі іх у бесьперапынную "каўбасьню". Канчаткова брэйк-Б склаўся ў пачатку 90-х у самых "электронных" гарадах Брытаніі - Лёндане і Брыстолі. Ды-джэі пачалі выкарыстоўваць больш халодныя гукі, фрагмэнты саўндтрэкаў да фільмаў жахаў, зьявіўся так званы dark sound. У электроншчыну пачалі пранікаць элемэнты рэгі,



"БЕЛАРУСКІ ТУРБА-МІКСЭР" ЯК ПРАЕКТ І БУДУЧЫ БРЭНД БЫЎ ЗАДУМАНЫ ЎЛЕТКУ 2001 ГОДУ ГРУПАЙ, ТАК БЫ МОВІЦЬ, СПЭЦЫЯЛІСТАЎ. ЯНА СКЛАДАЛАСЯ З ПРАДСТАЎНІКОЎ ТРОХ ДАВОЛІ РЭДКІХ І ВЕЛЬМІ КРЭАТЫЎНЫХ ПРАФЭСІЯЎ - ДЫЗАЙНЭРА ЎЛАДА КАЗАНОЎСКАГА ("РЕ-МАРК"), PR-МЭНЭДЖЭРА СЯРГЕЯ САХАРАВА І ПРАДУСАРА МУЗЫЧНЫХ ПРАЕКТАЎ РАМАНА АРЛОВА (НА ТОЙ МОМАНТ "БУЛЬБА РЭКАРДЗ"). ЗАРАЗ "МІКСЭР" - ГЭТА ШТОГАДОВЫ ЗІМОВЫ ФЭСТ, СЭРЫЙНЫ КАМПАКТ-ДЫСК (ЦІ ЯК МІНІМУМ КАСЭТА) І ДАКУМЭНТАЛЬНЫ ФІЛЬМ. ГЭТА ПА СПРАВЕ, АЛЕ ВЕЛЬМІ СУХА. А ЦЯПЕР - ВЕСЕЛА І НАВАТ КРЫХУ НЕ ПА СПРАВЕ. ПАТРЭБНЫ ВЯСЁЛЫ ПЕРАДКАЛЯДНЫ КАНЦЭРТ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ - І ЎСЁ ТУТ! Я, ПРЫНАМСІ, ВЕДАЮ ЧАЛАВЕК 40, ЯКІЯ Б ХАЦЕЛІ ЗРАБІЦЬ ВЕЛІЗАРНЫ ФЭСТ ЛЕТАМ У ПОЛІ, І НІВОДНАГА, ЯКІ Б ХАЦЕЎ ТАГО Ж САМАГА ЎЗІМКУ НА ВДНГ. ГЭТАКСАМА І З ДЫСКАМ - НЯМА ЦІКАВАЙ КАМПІЛЯЦЫІ, ЯКАЯ Б АДСОТКАЎ НА 80 БЫЛА БЕЛАРУСКАЙ, ПРЫЧЫМ НЕ АЛЬТЭРНАТЫЎНАЙ, А АБСАЛЮТНА РАДЫЁФАРМАТНАЙ, А НА АСТАТНІЯ АДСОТКІ ПРЫПАДАЛІ Б МОДНЫЯ ГАСЬЦЯВЫЯ ПЕСЕНЬКІ ТЫПУ ТАМ З УКРАІНЫ, РАСЕІ ДЫ АДНЕКУЛЬ ЯШЧЭ. ДА ТАГО Ж, КАБ ДЫСК ГЭТЫ СКЛАДАЎСЯ ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ З ЭКСКЛЮЗІВУ, А НЕ З ФАНАГРАМАЎ ТРОХГАДОВАЙ ДАЎНІНЫ. КАБ НЕЙКІХ МАДНЯВЫХ РЭМІКСАЎ ТАМ БЫЛО КРЫШАЧКУ, КАБ І Ў КЛЮБЕ ТАКІ ДЫСК МОЖНА БЫЛО КРУЦІЦЬ УСЮ НОЧ. КАБ БЫЎ ТАКІ ДЫСК НАЙЛЕПШАЙ РЭКЛЯМАЙ ДЛЯ НОВЫХ БЕЛАРУСКІХ ПЕСЕНЬ І РЭАЛЬНЫМ КАНКУРЭНТАМ РАСЕЙСКІМ ЗБОРНІКАМ.

## "беларускі турба-міксэр" - завадзі!

І ЯШЧЭ. БЕЛАРУСЫ ВЕЛЬМІ НЯ ЛЮБЯЦЬ ПЛАЦІЦЬ ЗА МУЗЫКУ. АДСЮЛЬ - ПІРАЦТВА, БЕДНАСЬЦЬ МУЗЫКАЎ, ДЫ І "ДЭПЭШ МОД" НЕВЯДОМА КАЛІ ЯШЧЭ СЮДЫ ПРЫЕДЗЕ. ТАМУ ВОСЬ ВАМ ПЕРШЫ РАЗ ДЫСК БЯСПЛАТНА. ЁН З АЎТАРСКІМІ ПРАВАМІ, АБСАЛЮТНА НЕПІРАЦКІ, УСЕ ДАКУМЭНТЫ Ў МЯНЕ ЁСЬЦЬ, УСЕ МУЗЫКІ АТРЫМАЛІ ГРОШЫ.



УВЕСНУ ЧАКАЙЦЕ НАСТУПНУЮ КАМПІЛЯЦЫЮ, АДШУКАЕЦЕ ЯЕ І У CD. ЛЮБІЦЕ СВАЕ. ЦІ, ПРЫНАМСІ, ВЕДАЙЦЕ! УДАЛАГА ПРАСЛУХОЎВАНЬНЯ!




Раман Арлоў, прадусар

хіп-хопу і "альтэрнатывы". На гэтай хвалі нарадзіліся тры плыні, што абапіраліся на брэйк-Б рытміку: танцавальныя джангл (уплыў рэгі), біг-Б (значная доля хіп-хопу) і зусім не танцавальны трып-хоп (пад уплывам сьвінгу і псыхадэліі).

***Як распазнаць:*** Першая частка назвы ўказвае на ламаны, сінкапаваны, шматпластовы рытм. Раскладкай бубноў нагадвае рок - у клясычным чатырохдольным памеры цотныя долі акцэнтуюцца бас-бочкай. Пэркусія - дроб, зьбіўкі. Як зазначыў нейкі ды-джэй, брэйк-Б - гэта закальцаваны брэйк (зьбіўка на слабой долі такту, уступ альбо пераход), узяты зь любой фанк-, рок- ці поп-кампазыцыі.

У 1994-95 гг. з брэйк-Б рытмікі вырас біг-Б (альбо хімічны біт, названы так паводле кампазыцыі Chemical Brothers "Chemical Beats" - ня блытаць зь біг-Б 60-х.) Менавіта браты Мендзялеевы лічацца пачынальнікамі стылю. На першы плян выходзіць рытм, партыі "падтрымкі" мінімалістычныя. Паступова біг-Б эвалюцыянаваў, ператварыўся з музыкі выключна інструмэнтальнай у вакальна-інструмэнтальную.

***Як пазнаць:*** першы з чатырох удараў падкрэсьліваецца з дапамогай бочкі, хэта альбо сынтэзатараў ці сэмплаваных гітараў. Рытм-грувы - "тлустыя", цяжкія і шчыльныя. Партыі баса нясуць адбітак фанку і хіп-хопу. Характэрная рыса - саўнд-эфэкты: сырэны, бульканьні, фырканьні, зумы (фірмовы знак Chemical Brothers).

***Што слухаць:*** Chemical Brothers "Exit Planet Dust" (1995); Crystal Method "Vegas" (1997); Propellerheads "Decksandrumsandrockandroll"(1998); Fatboy Slim "You've Come A Long Way, Baby" (1998).

Альтэрнатыўны брэйк-Б (alternative break-beat) - кірунак, вельмі блізкі па стылістыцы да біг-Б. Адрозьнівае яго большая агрэсія саўнду (у якім, апрача электроннага саўнду, могуць прысутнічаць "брудныя" гітары), шчыльная і ліхаманкавая частата рытм-сеткі, скажоны перакампрэсаваны вакал і іміжд а-ля Prodigy. Галоўнае - прымусіць арганізм рэцыпіента выкідваць у кроў як мага больш адрэналіну.

***Што слухаць:*** Prodigy, Freestylers, Junkie XL.

## BY

Дамэнная зона ў інтэрнэце, адпаведная беларускаму сэгмэнту "павуціньня".

Намэнклятура BY была распрацаваная Міжнароднай арганізацыяй па стандартызацыі (International Standartization Organisation) для Беларусі як сябра Арганізацыі аб'яднаных нацыяў тысячу год таму. Пад кодам BY, нагадаем, праходзіць і ўвесь аўтатранспарт, зарэгістраваны на тэрыторыі нашай краіны.

BY

Паўстае лягічнае пытаньне: чаму BY, а не BE (Belarus) ці RB (Republic of Belarus)? Усё вельмі проста: паколькі ў ангельскай транскрыпцыі да 1992 году назва краіны праходзіла як Byelorussia (ад расейскага Белоруссия), а Be і іншыя варыянты, што адлюстроўвалі б актуальнае напісаньне Беларусь, "разабралі" Бэльгія і іншыя, то беларускаму ўраду нічога не заставалася, як "узяць" BY. Зрэшты, хто памятае: беларускія аўтааматары некаторы час выкарыстоўвалі менавіта зручныя скарачэньні краіны. Але ўсяму добраму прыходзіць канец - пад такой жа намэнклятурай BY зарэгістраваная Беларусь у сьпісах ICANN - арганізацыі, што кантралюе пазначэньне інтэрнэтаўскіх зонаў.

Зона BY зарэгістраваная ў траўні 1994 году прадпрыемствам "Адкрыты кантакт" (www.open.by), якое і дагэтуль разам зь Дзяржаўным цэнтрам бясьпекі інфармацыі займаецца разьмеркаваньнем дамэнаў у ёй. Да сакавіка 1995 году IP-паслугі ў Беларусі не прадастаўляліся наагул, то бок on-line інтэрнэт у яго сёньняшнім выглядзе адсутнічаў. Даступная была толькі электронная пошта, дый тая праходзіла праз расейскую сетку "Релком". Пры гэтым электронныя адрасы мелі выгляд нататкаў вар'ята. Рэгістрацыя карнявой зоны BY дазволіла спрасьціць электронныя адрасы і абазначыла Беларусь у сетцы як самастойную краіну, я не як частку савецкага дамэна SU. На дадзены момант BY адрозьніваецца малой колькасьцю дамэнаў (з пачатку 2000 году іх зарэгістравана каля двух тысячаў, прычым дзеяньне 500 ужо прыпыненае), вялікім коштам паслугаў (8.000 рублёў па цэнах на лістапад) і "гемароем" пры рэгістрацыі. Сярод плюсаў - усё тая ж слабая "заселенасьць": выбар кароткага і запамінальнага імя практычна не выклікае праблемаў. У гэтай забаўцы можа паўдзельнічаць кожны, варта толькі зайсьці на www.tld.by. Некаторыя аналітыкі тым часам упэўненыя, што пры ўдалым маркетынгавым падыходзе BY мае добрыя шанцы на продаж: нагадаем, па-ангельску "купляць" гучыць прыкладна гэтаксама - "бай". Адно што невядома, калі тыя шанцы пачнуць рэалізоўвацца.

## "Бонда"

Самы першы беларускі (беларускамоўны) рок-гурт - авангард таго, што зараз мы называем айчыннай альтэрнатыўнай музыкай.

Было гэта ў 1980-я, яшчэ да антыалькагольнай кампаніі, калі рэстаранныя і нерэстаранныя лабухі ды народжаныя імі ВІА пакрыху загіналіся, гайкі адпускаліся, а жыцьцё даражэла. Гэтая эпоха супала з часам творчага і полавага сталеньня падазронай генэрацыі, якая after drink of "Agdam" дружна настройвала радыё на варожыя хвалі й лавіла рок-н-рола рытм - свайго сэрца стук. Асабліва да смаку ім быў малады Стынг са сваімі "The Police", польская "Lady Punk" ды іншыя ідэалягічна чужыя нармальнаму гопу музычныя калектывы. Яны збольшага былі гуманітарыямі, зрэдку - матэматыкамі (і гэтым адрозьніваліся ад першых менскіх бітнікаў), ім хацелася нечага незвычайнага ў застаялым тады року. Праіснаваўшы колькі год як расейскамоўны ВІА "Метро", на сьвет паціху вылезла "Бонда". Ужо сама назва правакавала простых БССРаўскіх камсамольцаў, а калі музыкі зацягнулі песьні па-беларуску ды не пра лапці... Адбылася рэвалюцыя!!!

БОНДА

Гэта па-першае, а па-другое "Бонда" стала калыскай для большасьці "самых-самых" беларускіх рокераў: Варашкевіч ("Крама"), Корань ("Уліс"), Маркаў (шмат калектываў) і зь дзясятак іншых. Па-трэцяе, ці не праз "Бонду" ў нас дагэтуль папулярны блюз-рок - у іх час самае супэрмоднае, што можна было граць (апрача хіба heavy metal).

Тое, чым была "Бонда" для ўсіх прагрэсіўных беларусаў, ёміста вызначана ў назве канцэрту-прысьвячэньня легендарнай бандзе - "100 год беларускаму рок-н-ролу", - які прайшоў у 1994 годзе. Адно што разам з гэтым канцэртам слава першага беларускага рок-бэнду пасьпяхова сышла ў нябыт. Сэ ля ві геніяў...



# EXTRA LIFESTYLE

НАРАДЖЭНЬНЕМ НОВАЙ ЗОРКІ НА НЕБАСХІЛЕ ПРАГРЭСІЎНАЙ МОЛАДЗЕВАЙ МОДЫ МЫ АБАВЯЗАНЫЯ СЯРГЕЮ СКРЭБУ (УДЗЯЧНЫЯ ГЛЕДАЧЫ ПАМЯТАЮЦЬ ЯГО ПА ФІЛЬМЕ "ЦІХІЯ ТРОЕЧНІКІ"). КОЛЬКІ ГОД ТАМУ СЯРГЕЙ ЗЬЕХАЎ З РОДНАГА МЕНСКУ Ў САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ, І Ў 1997 Г. СЬВЕТ УПЕРШЫНЮ ПАЧУЎ ІМЯ **EXTRA**. ТАЯ ІНАВАЦЫЙНАСЬЦЬ, ШТО АДЧУВАЛАСЯ Ў КОЖНАЙ МАДЭЛІ, СТВАРЫЛА ЭФЭКТ ВЫБУХУ БОМБЫ. EXTRA БЫЛА ПЕРШЫМ БРЭНДАМ НА ПОСТСАВЕЦКАЙ ПРАСТОРЫ, ЯКІ ЗРАБІЎ СТАЎКУ НА САМЫ МАСАВЫ І САМЫ - ЧАМУСЬЦІ - ІГНАРАВАНЫ МОНСТРАМІ СТЫЛЁВА-МОДНАГА СЬВЕТУ СЭГМЭНТ РЫНКУ: МОЛАДЗЬ. СТАМІЎШЫСЯ БЛУКАЦЬ ЛЯ ПРЫЛАЎКАЎ СЭКАНД-ХЭНДАЎ ДЫ ГУМАЎ-ЦУМАЎ, МАЛАДЗЁНЫ ВЫНАХОДЗІЛІ НЕТРАДЫЦЫЙНЫЯ СРОДКІ САМАВЫЯЎЛЕНЬНЯ, КАБ НЕ ЗГУБІЦЦА Ў ШЭРЫМ НАТОЎПЕ. **EXTRA** БЫЛА ПРЫДУМАНАЯ МЕНАВІТА ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЗРАБІЎ ДЭВІЗАМ СВАЙГО ЖЫЦЬЦЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ І МЭТАНАКІРАВАНАСЬЦЬ У АДКРЫЦЬЦІ НОВАГА Ў НАВАКОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ.

## LIFELINES **EXTRA**

АД ПАЧАТКУ ЎВАГА **EXTRA** БЫЛА СФАКУСАВАНАЯ НА ВЫРАБЕ ВУЛІЧНАГА АДЗЕНЬНЯ І ВОПРАТКІ Ў СПАРТОВЫМ СТЫЛІ. ШТО І СТАЛАСЯ АСНОВАЙ ЛІНІЯЎ **STREET** І **SPORT**. ПАЗЬНЕЙ ДА ІХ ДАДАЛАСЯ ВЯЧЭРНЯЯ ЛІНІЯ **LITE**.

ЛІНІЯ **STREET** - САМАЯ ШЫРОКАЯ. ГЭТА ДЗЯСЯТКІ МАДЭЛЯЎ ДЖЫНСАЎ, ШВЭДРАЎ, ФУТБОЛАК, КУРТАК, ДЖЭМПЭРАЎ, ПАЛІТО, РАСПРАЦАВАНЫХ СПЭЦЫЯЛЬНА ДЛЯ ТАГО, КАБ ТЫ ЎТУЛЬНА АДЧУВАЎ СЯБЕ Ў ЛЮБЫМ МЕСЦЫ СВАЙГО ГОРАДУ, ПРЫ ГЭТЫМ НЕ ЗЬЛІВАЮЧЫСЯ ПА КОЛЕРАВАЙ ГАМЕ З АСФАЛЬТАМ. **YAPPI, GO HOME!**

ВОПРАТКА ЛІНІІ **EXTRA SPORT** АРЫЕНТАВАНАЯ НА СУЧАСНЫЯ ВІДЫ СПОРТУ І АКТЫЎНАГА АДПАЧЫНКУ. ПРАКТЫЧНАСЬЦЬ І ЗРУЧНАСЬЦЬ МАДЭЛЯЎ ДАСЯГАЕЦЦА ЗА КОШТ ПРЫМЯНЕНЬНЯ НАЙНОЎШЫХ ТЭКСТЫЛЬНЫХ РАСПРАЦОВАК. СПАРТОВЫЯ НАГАВІЦЫ, ФУТБОЛКІ, КЕНГУРУ МОЖНА ЛЁГКА КАМБІНАВАЦЬ ПАМІЖ САБОЙ. АДМЕТНЫЯ РЫСЫ ЛІНІІ - ІНТЭНСІЎНЫЯ КОЛЕРЫ І СВАБОДА РУХАЎ. **ШТО ТЫ МОЖАШ ВЕДАЦЬ ПРА СЯБЕ, КАЛІ ТЫ НІКОЛІ НЯ БІЎСЯ?**

ЛЁГКІ І РАМАНТЫЧНЫ СТЫЛЬ ПРЭЗЭНТУЕ ВЯЧЭРНЯЯ ЛІНІЯ **EXTRA LITE**. ТОНКІЯ СЫЛЮЭТЫ, ПРЫГЛУШАНЫЯ АДЦЕНЬНІ ФАРМУЮЦЬ СЬВЕЖЫ ПОГЛЯД НА ЭЛЕГАНТНУЮ ВЯЧЭРНЮЮ ВОПРАТКУ. РЭЧЫ ГЭТАЙ ЛІНІІ ВЫРАБЛЯЮЦЦА МАЛЫМІ СЭРЫЯМІ. **ХОЧАШ БЫЦЬ КРУТЫМ - ПЛАЦІ!**

## **EXTRA** BY

У МЕНСКУ **EXTRA** НАДЗВЫЧАЙ УТУЛЬНА АДЧУЛА СЯБЕ Ў АТМАСФЭРЫ МУЗЫЧНАЙ КРАМЫ "ПОДЗЕМКА" НА **СКАРЫНЫ, 43**. У ПРОДАЖЫ ЎЛАСНАЙ ПРАДУКЦЫІ **EXTRA** АДХІЛЯЕ ТРАДЫЦЫЙНЫЯ ПАДЫХОДЫ. ВЫГЛЯД КРАМЫ, ПАВОДЛЕ МЕРКАВАНЬНЯ **EXTRA**, - ВЫНІК ЗЬМЯШАНЬНЯ РАЗНАСТАЙНЫХ ВІДАЎ СУЧАСНАГА МАСТАЦТВА, ЯКОЕ СТВАРАЕ АСАБЛІВУЮ ПРАСТОРУ. ДЫЗАЙН КРАМАЎ ПРАЦЯГВАЕ АСНОЎНУЮ ДУМКУ **EXTRA**: ЯК ВОПРАТКА ПАДКРЭСЬЛІВАЕ ТЫЯ ЦІ ІНШЫЯ РЫСЫ Ў ВОБРАЗЕ ЧАЛАВЕКА, ТАК І КРАМЫ **EXTRA** ЗАВЯРШАЮЦЬ СТЫЛЬ МАРКІ, СТАНОВЯЧЫСЯ ЎВАСАБЛЕНЬНЕМ ФІРМОВАГА СТЫЛЮ.

ТУТ ТЫ АБАВЯЗКОВА ЗНОЙДЗЕШ НЕШТА ДЛЯ СЯБЕ. А ТАКСАМА АТРЫМАЕШ БОНУС АД **EXTRA** І... БУДЗЕШ СФАТАГРАФАВАНЫ Ў СВАЁЙ НОВАЙ ВОПРАТЦЫ. УВАГА, CHEESE! ФАТАЗДЫМКІ ЗАБЯРЭШ ПАСЬЛЯ ПРОСТА Ў КРАМЕ.
АДЗІНЫ НЮАНС: КАЛІ ТЫ ПРЫЙШОЎ СЮДЫ З МЭТАЙ КУПІЦЬ САБЕ ТАКІЯ Ж ДЖЫНСЫ, ШТО НАБЫЎ ТВОЙ СЯБАР ГОД ТАМУ, ЦЯБЕ ЧАКАЕ РАСЧАРАВАНЬНЕ: НОВЫЯ ПАСТУПЛЕНЬНІ ТУТ - КОЖНЫ ТЫДЗЕНЬ. НЕ ЖЫВІ МІНУЛЫМ! РУХАЙСЯ НАПЕРАД РАЗАМ З **EXTRA**.

## POINT

ВОБРАЗ **EXTRA** ПРАСЯКНУТЫ ДУХАМ ГАРАДЗКІХ ЛЯНДШАФТАЎ. ЁН ГАРМАНІЧНЫ Ў АДНОСІНАХ З НАВАКОЛЬНЫМ СЬВЕТАМ, ЛЮДЗЬМІ І ІХ ІДЭЯМІ. ЁН БЯЗЬМЕЖНЫ Ў ПРАСТОРЫ Й ЧАСЕ І НЕПАДУЛАДНЫ ІМ. ЁН ДАЛЁКІ АД ШЭРАСЬЦІ. ЁН - ТОЕ, ДА ЧАГО ІМКНЕСЬСЯ.

**ВАЗЬМІ ЎДЗЕЛ У
НАВАГОДНІМ РОЗЫГРЫШЫ ПРЫЗОЎ АД EXTRA!**

1. АДКАЖЫ НА ПЫТАНЬНІ (ГЛ. НІЖЭЙ);
2. ПАЗНАЧ СВАЁ ІМЯ____________________,
   КАНТАКТЫ (ТЭЛЕФОН, E-MAIL)____________________;
3. ПРЫНЯСІ КУПОН У КРАМУ **EXTRA (МЕНСК, ПР. СКАРЫНЫ, 43)** ДА КАНЦА **СТУДЗЕНЯ 2003 Г**.

# АТРЫМАЙ ПРЫЗ АД EXTRA!

**як называецца фотасэрыя паштовак з рэклямай вопраткі EXTRA?**
- ☐ жыві і радуйся!
- ☐ жыві і помні!
- ☐ будзь гатовы! - заўжды гатовы!

**хто зьяўляецца аўтарам непастановачных рэклямных здымкаў EXTRA?**
- ☐ самі хюрскюлахці
- ☐ самі звусамі
- ☐ харукі муракамі

**калі была адчыненая крама EXTRA на пр. СКАРЫНЫ, 43?**
- ☐ у жніўні 44-га
- ☐ зімой 2001-га
- ☐ рыхтуецца да адкрыцьця (не прапусьці!)

# FREETER

## як зьнішчыць старую Японію яе ж рукамі

тэкст: Андрэас Копыс   малюнкі: Сьвятлана Радзівонава

**Японія – ці не адзіная краіна ў сьвеце, якая здолела выявіць унівэрсальнасьць сваёй філязофіі ва ўсіх галінах існаваньня – ад эканомікі да побыту. Карпарацыя – на сёньня найлепшы сынонім да назвы краіны: строга структураванае ўтварэньне, у якім пануюць агрэсіўна-кантралюючыя памкненьні да падпарадкаваньня ўсіх і ўся. Сфармулявана крыху няўцямна і расьцягнута, але сутнасна правільна. Карпарацыя – гэта ўся краіна: яна наняла цябе пажыцьцёва, і ты мусіш быць адданым ёй да старасьці. Такой была праўда да нядаўняга часу.**
**Японскія freeters – 20–30-гадовыя маладзёны і маладухі – сталі аднымі зь першых, хто вырашыў папсаваць старадаўнюю кашу ўласным нігілістычным пляўком. Пляўком, скіраваным у бок мэга-карпаратыўнай матухны-Японіі.**

Стройныя чорна-белыя (у колер клясычнага гарнітуру-"тройкі") шэрагі маладых японскіх клеркаў, што гатовыя жыцьцё пакласьці, каб занесьці свой заўсёдны заплечнік і сябе заадно ў хмарачос, дзе месьціцца трансатлянтычная кантора, ня тое што пахіснуліся - яны рэзка зьменшыліся. Справа ня ў тым, што дэмаграфія японскіх выспаў у крызысе - праблема хутчэй у маладых людзях, якія канчаткова згубілі інтарэс да будаўніцтва жыцьцёвых праjэктаў у рамках традыцыйных "праца, праца, начальнік, праца, сям'я, вечарынка, праца, праца, праца, сьмерць". Занадта прадказальна, каб пачынаць - упэўненыя яны і мяняюць пэрспэктывы калі-кольвек далезьці да прыступкі з пазнакай "бос" на досыць яўныя намеры зарабіць на пражыцьцё "вольнымі хлябамі".

### "ДЫРЭКТАР? ПАЙШОЎ ТЫ НАХ, ДЫРЭКТАР!"

Freeters (анг. free + ням. arbeiter) - гэта маладыя японцы, якія хочуць зарабляць нармальныя грошы, але ніколі ня пойдуць пажыцьцёва працаваць у адну фірму. Яны выбіраюць вакансіі, у якіх абавязковая ўмова - няпоўная стаўка і адпаведная ж занятасьць. Апошняе дазваляе ня толькі працаваць на некалькі кантораў паралельна, але мяняць офісы і пасады як пальчаткі. Freeters, як любяць казаць сацыёлягі і журналісты, ня столькі від працы ці форма аплаты - гэта ўдалая спроба падарваць знутры заскарузлыя японскія парадкі. Ясна, што тут жа зьяўляецца аскоміннае "японскі аналяг амэрыканскаму пакаленьню X (ікс)": гэткія ж тупарылыя да працы бэйбусы і нігілісты, а ў выніку - страчанае зьвяно ў ланцугу "мінулае - будучыня". Зрэшты, ня ўсё так проста.
Няпоўная занятасьць - гэта своеасаблівы выклік японскай сыстэме каштоўнасьцяў, якая складалася стагодзьдзямі. Адна з галоўных асаблівасьцяў сьветапогляду японцаў, якая была закладзеная яшчэ ў пэрыяд панаваньня першых імпэратарскіх дынастыяў, - адносіны да працы як да сьвятога абавязку ўсіх і кожнага. Фраза "праца - гэта жыцьцё" (і наадварот) - па эўрапейскіх мерках вартая быць напісанай на сьценах Асвэнцыму, - у Краіне ўзыходзячага сонца стала неад'емным складнікам мясцовай ідэалёгіі. Шараговы японец выдатна бачыў і ўсьведамляў сваю ролю ў складаных грамадзка-эканамічных варунках, таму пры фэадалізме пажыцьцёва працаваў на пана, а калі наваліўся капіталізм - на гандлёва-фінансавыя дамы



дзайбацу, правобразы карпарацыяў.
На думку японскіх абывателяў - бацькоў сёньняшніх freeters - менавіта культ працы, культ безаблічнага калектывізму, што ляжыць у аснове карпаратыўнай культуры, і дазволілі Японіі ў сярэдзіне XX ст. выбрацца з эканамічнай прорвы пасьляваеннага часу на першыя месцы ў сьвеце. На думку ж freeters, карпаратыўная культура і калектывізм забіваюць у чалавеку ўсялякую індывідуальнасьць, таму змагацца зь імі было вырашана вельмі проста - падрывам культу пажыцьцёвай працы ў адной кампаніі.

### БАЦЬКІ VS. ДЗЕЦІ

Фэномэн freeters пачаўся з таго, што ў 1980-х траціна выпускнікоў унівэрсытэтаў і каледжаў - кузьні маладых кадраў для карпарацыяў - засталася бяз працы. Паводле японскай лёгікі яны фактычна апынуліся па-за грамадзтвам. Іх кар'ернага росту не адбываецца, а гэта значыць, што можна з посьпехам забыцца на пастаянную







працу, уласную кватэрку, на сваю сям'ю - у маладых японцаў адабралі будучыню.
Але чамусьці амэрыканскія аднагодкі, што ў той час перажывалі ня лепшыя за японцаў часы, не адчайваліся і працягвалі жыць як жылі - дзеля свайго задавальненьня. Менавіта тады, калі маладая шпана Краіны ўзыходзячага сонца зразумела, што слова arbeiter патыхае фашызмам, накіраваным супраць асобы, нарадзіліся першыя freeters.
Зараз іх сотні тысячаў, яны нібы акупавалі старую добрую Японію, яны паўсюль: на вулічных ходніках, дзе пасьцеленыя некалькі дзясяткаў відаў танных ганконгскіх t-shirts з рознакаляровымі надпісамі Just be Yourself; у барах - за столікамі і перад стойкамі; на бэнзакалёнках і мыйках - дзе заўгодна. Іх выдае палітнекарэктнае адзеньне, у якім фантастычным чынам сумяшчаюцца сэканд-хэндавыя апранахі, танныя плястмасавыя феньки і аксэсуары з наварочаных буцікаў, навамодныя прычохі з пафарбаванымі ў руды ці белы колер валасамі.
"Я і мае сябры ніколі не апраналі кімано, толькі па расповедах бацькоў мы ведаем, як выглядае сад камянёў, мы ня бачылі Кабукі. Нахалеры мне гэта? Увесь сьвет жыве іншымі інтарэсамі, а гэты "асаблівы шлях Японіі" нафіг нікому не патрэбны", - кажа 20-гадовы freeter Кэн. І дадае: "Я жыву так, як сам хачу!"
Ім патрэбная свабода - бязь цёплага салёнага ветру ў твар, без сэнтымэнтальных абдымкаў пад гітару ля вогнішча, - freeter прагне свабоды плянаваць сваё жыцьцё самому. Па дадзеных Online Survey, з апытаных freeters 42% сталі такімі, бо "так зручна жыць", пры гэтым 48% японцаў "могуць зразумець, чаму моладзь робіцца freeters". Быць такім - значыць, вызваліцца ад усепаглынальнай карпаратыўнасьці бацькоў-працаголікаў.
"Я б ня мог працаваць у офісе поўны працоўны дзень, - упэўнена кажа Кэн, які сышоў з каледжу ўжо на другі год. - Вар'яцтва! Уставаць штодня на сьвітанку - нават узімку! - складаць у адфарматаваны карпаратыўнай культурай нэўтральнага колеру заплечнік ланч, ранішнія газэты з апошнімі раскладкамі індэксу Доў-Джонса, плэер і інш., потым прапіхвацца ў вагонах цягнікоў





да выхаду, а ўвечары тупіць і ўсьміхацца на карпарацыйных тусах... Хіба гэта значыць быць свабодным?!"
Чаму дзясяткам тысячаў маладых людзей падабаецца быць freeters? Online Survey сьцьвярджае, што добрая частка кайфуе ад гэтага, бо "застаецца шмат часу на самога сябе" (36%); таму што нават "калі ты маеш стабільную працу, гэта зусім ня значыць, што будзеш стабільна мець сродкі для існаваньня" (17%). А так - усё проста: ты знаходзіш сабе працу, дзе табе па-мінімуме навязваюць тупыя правілы і стандарты, моцна не напружваесься (некалькі гадзінаў на тыдзень), а пасьля на атрыманыя грошы, якія часам могуць перавышаць заробак тых жа бацькоў, - рабі enjoy yourself.
Японцы сталага веку такой "філязофіі жыцьця" не разумеюць і папросту шалеюць, бо цалкам зьнівэляванымі аказаліся традыцыі, якімі кіраваліся іх прашчуры цягам дзясяткаў стагодзьдзяў.
Але сацыёлягі ўпэўненыя, што неўладкаванасьць у жыцьці freeters - не віна апошніх, але паказьнік таго, як пад эканамічным грузам цяжкасьцяў мяняецца японскае грамадзтва. "Бацькі лічылі: калі яны забясьпечаць свайму дзіцяці добрую адукацыю, то могуць быць упэўненыя, што ён знойдзе добрую працу. Але гэты стары стыль жыцьця мяняецца на вачах," - сьцьвярджае сацыёляг Ёкагамскага ўнівэрсытэту Шынтаро Наканішы.
Па сьведчаньнях экспэртаў, неўтаймаваны японскі экспарт і адсутнасьць новых працоўных месцаў прывялі да таго, што працэнт выпускнікоў каледжаў і ўнівэрсытэтаў, якія не знаходзяць сабе прыдатнай працы, павялічваецца штогод. Ня дзіва, што 22% freeters "не ў захапленьні ад самога freeters'тва": нягледзячы на ўсялякія модныя закідоны, атрымліваць хоць нейкі, але гарантаваны заробак - ня самая кепская пэрспэктыва!..

### ТОЛЬКІ БЕЗЬ ІЛЮЗІЯЎ

Японскія ўлады разгубленыя: што рабіць, калі добрая частка выпускнікоў ВНУ ня могуць і не жадаюць шукаць пастаянную працу? Даходзіць да анэкдатычных сытуацыяў: у адным з такійскіх унівэрсытэтаў быў зладжаны адмысловы курс. Запрошаныя бізнэсмэны чыталі студэнтам лекцыі пра тое, як добра займацца карпаратыўным бізнэсам, як гэта рамантычна - цэлыя содні праціраць нагавіцы, - і якія посьпехі чакаюць кожнага, хто вырашыць "забіць" на ўласнае жыцьцё і аддацца карпарацыям.
Тым часам найбольш прасунутыя прадстаўнікі японскага бізнэсу лічаць, што freeter - гэта новая магчымасьць для ўздыму айчыннай эканомікі. Японскія газэты аж кішаць абвесткамі пра найм на працу кшталту: "Вы будзеце свабодныя ў выбары вашага адзеньня і прычоскі. Вам ня трэба будзе рана ўставаць і езьдзіць у перапоўненых цягніках. Нават калі ў вас мала досьведу, вы можаце добра зарабляць." Сярэдні заробак - 11 баксаў/гадзіна.
"Я не хачу працаваць у офісе ўсё жыцьцё" - галоўны прынцып freeters. Гэта і выкарыстоўваюць кампаніі, асабліва тыя, што распрацоўваюць "высокія тэхналёгіі". Схема простая: у кансалтынгавыя фірмы паступаюць запыты на маладых людзей, здольных выпрацоўваць і ўвасабляць у жыцьцё нечаканыя і арыгінальныя ідэі пад часовую занятасьць. Напрыклад, распрацоўка сайтаў, іх адміністраваньне, альбо прыдумваньне сцэнараў новых кампутарных гульняў, ну і гэтак далей. Кансалтынгавая кантора "косіць" такіх маладых людзей пачкамі, а пасьля падганяе іх рэзюмэ фірмам. Усе задаволеныя - праца часовая, ня пыльная, дыстанцыйная, і грошы нармальныя.
Праўда, ёсьць адна заўвага: асноўныя замаўляльнікі новых душаў - карпаратыўныя монстры кшталту Microsoft, Oracle etc.
Аказваецца, вырвацца са страўніка карпарацыйнага монстра можна толькі двума спосабамі, і кожны зь іх не пакідае табе ніякіх шанцаў - ты застаесься адкідам грамадзтва, яго гуанай. Зрэшты, менавіта апошняй жывіцца ўсё жывое на зямлі, і Японія тут не выключэньне: вялікія фірмы скупляюць freeters дробным оптам, каб вылезьці зь ідэйнай рутыны.
А "маладыя нігілісты" хай сабе цешацца ілюзіямі: "Для нас ня важная кар'ера - больш важнай ёсьць свабода: думак, дзеяньня, мараў. Мы задаволеныя сваім цяперашнім жыцьцём, таму што робім тое, што хочам".

# ВНУ і "НАЛ"


тэкст: Алёна Шалаева, Ільля
фота: SSh
малюнкі: Сьвятлана Радзівонава





Пачынаючы рыхтаваць чарговую тэму "Навучаньня" (умоўна мы называлі яе "Карупцыя ў ВНУ"), мы зусім не разьлічвалі, што накапаем столькі ўсяго ўсякага. Проста закідвалі знаёмым (знаёмым знаёмых, знаёмым знаёмых знаёмых і далей па ланцугу) пытаньні. Потым на нас звалілася процьма адказаў. На выхадзе атрымалася НЕШТА. Мы выдатна разумеем, што гэтае НЕШТА - толькі збор прыватных фактаў і меркаваньняў. Больш за тое, мы зусім не імкнуліся да абагульненьняў. Нашая справа - паставіць напрыканцы тлусты пытальнік. Вось хаця б такі -





# ХТО-КАМУ-КОЛЬКІ

**Нарэшце зіма! Хутка Каляды, падарункі, елкі-палкі... І сэсія. Напярэдадні гэтага пераломнага - ва ўсіх сэнсах - мерапрыемства студэнцкае прапластаваньне грамадзтва па хуткасьці мітусьні прымушае згадаць пра броўнавы рух. Здаць усё ў тэрмін часам проста нерэальна. І калі вучыцца далей хочацца, а іншага выйсьця няма, студэнт становіцца на сьцежку хабару. Вельмі часта за паваротам яго ўжо чакае выкладчык.**

## ня хлебам адзіным...

Нягледзячы на тое, што амаль кожная дзяржаўная ВНУ мае ў сваім актыве судовую справу на дадзеную тэму, прынята лічыць, што карупцыя ў сфэры адукацыі альбо адыйшла ў нябыт, альбо надзейна шыфруецца.



Але агульнавядома, што парасткі (няхай кволыя) хабарніцтва ў клясычным выглядзе прабіваюцца якраз падчас сэсіі, калі студэнт ці цэлая група цягне выкладчыку цукеркі, "напоі", накрывае "стол" да дзяржаўнага іспыту з надзеяй на станоўчы фінал экзэкуцыі. У выкладчыкаў - свае думкі на гэты конт.

**А. (БДТУ, выкладчык):**
**Ва ўнівэрсытэце вялікая цякучка кадраў, таму выкладчыкі трымаюцца за сваё месца, тым больш пры цяперашнім стане эканомікі. А каробка цукерак ды пляшка віна... Ну, няхай гэта застанецца маленькімі хітрыкамі студэнтаў. Усё роўна я стаўлю тую адзнаку, якую лічу патрэбнай.**

Вядома, прынцыповасьць - рэч пачэсная. Ніхто ня кажа, што бяруць і вымагаюць хабар усе. Але вось Пётар В. з палітэху распавядае мне, як яны зь сябрамі "ўламалі" выкладчыка прыняць іспыт без "адпрацовак" і падрыхтоўкі. Сродкам "улому" стала торба зь дзесяцьцю пляшкамі гарэлкі (з чатырох студэнтаў). Ёю даводзілася час ад часу трэсьці, каб зьмесьціва пабразгвала і нагадвала пра сябе.

У Законе РБ "Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю і карупцыяй" (ад 26.06.97) гаворыцца, што з мэтай недапушчэньня карупцыі адказным асобам забараняецца "атрыманьне падарункаў у сувязі з выкананьнем службовых абавязкаў, за выключэньнем сымбалічных знакаў увагі і сымбалічных сувэніраў пры правядзеньні пратакольных і інш. афіцыйных мерапрыемстваў".

Такімі "чыста сымбалічнымі" выключэньнямі ў нас тлумачыцца ўсё: і торба з гарэлкай, і "адпрацоўка" ў выкладчыка на лецішчы, і канвэрцік з баксамі.

## каштарыс

Мой знаёмец Аляксандар К. дасылае мне на мэйл "прайс" аднаго зь іспытаў у БНТУ і адпаведную "інструкцыю".

**Залік - 10 у.а.**
**Тройка - 30 у.а.**
**Чацьверка - 40 у.а.**
**Пяцёрка - 50 у.а.**
**Працэс: у.а. укладаеш у залікоўку. Выкладчык адразу ведае, на якую адзнаку ты разьлічваеш. Калі не разьлічваеш увогуле - натуральна, прыходзіш наступным разам. Можа, зробісься разумнейшым...**

Але і такіх рызыкоўных няшмат. Большасьць легалізуе сваю дзейнасьць праз рэпэтытарства і выкананьне кантрольных, курсавых і дыплёмных прац. Рэпэтытарскія паслугі каштуюць ад $2 да 10 за акадэмічную гадзіну. Усё залежыць ад замоўленага прадмету: дарагія зараз замежныя мовы і матэматыка, а самыя танныя - руская і беларуская мовы. Не апошнюю ролю, асабліва калі гаворка ідзе пра заняткі з абітурыентамі, адыгрывае пасада рэпэтытара. У ідэальным выпадку ён павінен працаваць на абраным табой факультэце. Праўда, супраць гэткага "шэрага" хабару існуе афіцыйная заслона: "Палажэньне аб прыёмнай камісіі вышэйшай навучальнай установы" (ч. 1, 10) забараняе такім выкладчыкам удзельнічаць у прыёмнай кампаніі. Але хто з рэпэтытараў легалізуе сваю дзейнасьць? Пакажыце мне выкладчыка, які б упісваў яе ў падатковую дэклярацыю.



Іншы спосаб легальнай падпрацоўкі больш бясьпечны і прыбытковы, але часта ўсё адно закансьпіраваны. Бабулька прымае па тэлефоне замову, а сын/дачка-выкладчык выконвае працу. Не абыходзіцца, праўда, бяз казусаў.

**Макс А. (БДзАТУ) "браў курсач". Па яго словах, на заняткі зьяўляўся рэдка і быў "ня ў курсе". Затое "выратавальніка" наведваў з**



**зайздроснай пэрыядычнасьцю. Кульмінацыя надыйшла ў часе перадабароны, дзе небарака ўпершыню ўбачыў кіраўніка сваёй працы... Спачатку абодва пачуваліся няёмка, але ўрэшце дамовіліся на чацьверку і 60 даляраў. Усё гэта было б сьмешна, калі б не было так сумна.**

Безумоўна, з распаўсюдам інтэрнэту такія падпрацоўкі пакрысе страчваюць актуальнасьць, дый карупцыяй іх назваць цяжка. Насамрэч такім чынам выкладчыкі "круцяцца" ў гэтым (ой, якім няпростым!) жыцьці. Яны таксама некалі былі студэнтамі і пачыналі свой бізнэс з аб'яваў кшталту "Перапішу канспэкт. Разборліва. Хутка. Танна".



## гульня ў падзяку

Як лічыце, ці можна паступіць у Гарвард за дзьве сьвіньні і 200 баксаў? У нас такое цалкам магчыма, асабліва ў дзяржаўных ВНУ. Своеасаблівая падзяка "на лапу" - зусім не экзотыка. Дый "платнікі" там узьнікаюць адмысловым чынам: на ўступных іспытах табе не хапіла паўбалу, але цябе бяруць на платнае. Увесь астатні пэрыяд навучаньня дзякуеш "унівэрсытэту і Ко" за ласку кругленькай сумай. І ўсё было б нармальна, калі б не крылатае выслоўе: ня даў раней - плаці цяпер. Дый стаўленьне да платнікаў у дзяржаўных ВНУ - вялізная тэма для асобнай гаворкі.

Яшчэ адны "хранічна ўдзячныя" - завочнікі. Калі студэнты стацыянара пры чарговай няўдачы думаюць: "Возьмем на змор", - дык завочнікі, якіх такая тактыка па аб'ектыўных прычынах не задавальняе, папросту адкупаюцца.



**Ігар П. (БДТУ, завочнік):**
**Звычайна выкладчык сам называе суму ці "форму падзякі". Больш сьціплыя - намякаюць тым ці іншым чынам. Спачатку гэта выклікала ў мяне шок, але другога выйсьця не было. Ну не магу я сядзець яшчэ месяц у Менску! Трэба ехаць дадому - працаваць, зарабляць на сям'ю. Так і прыцiраецца народ...**

**Н. (БДПУ, выкладчык):**
**Такое хабарніцтва, як у нас, ня вартае ўвагі. Цукеркі ці бананы я і сам магу купіць. Пачак даляраў - гэта іншая справа. Я ў студэнтаў ніколі нічога не вымагаю, але калі прынясуць, дык бяру. Не выкідаць жа. Карупцыю не асуджаю і не ўхваляю: кожны сам сабе судзьдзя. А пракантраляваць яе немагчыма. Над кожным наглядчыка не паставіш.**

Усё гэта - РЭАЛЬНЫЯ словы РЭАЛЬНЫХ людзей. Мабыць, усім зразумела, чаму я не падаю імёнаў. Пікантнасьць апісанай сытуацыі нават не ў колазвароце грошай там, дзе яго не павінна быць a priori. І нават ня ў тым, што ёсьць жаданьне ўзяць, якое, хочаш ці не, нараджае неабходнасьць даць. Дзіўна іншае: УСЕ ПРА ГЭТА ВЕДАЮЦЬ. А калі так, які сэнс маўчаць і рабіць выгляд, што нічога не адбываецца? Сындром страўса?■





# ВЫДАТНАЯ ПРАЦА

**Імя: Ільля.**
**Статус: кандыдат філялягічных навук.**
**Род заняткаў: напісаньне навуковых прац на замову.**
**Асноўная крыніца даходаў: гл. вышэй.**

Так, у мяне выдатная праца. Па-першае, мне цікава гэтым займацца, па-другое, за гэта яшчэ і плацяць.

Я пішу кантрольныя, курсавыя, дыплёмы на любыя тэмы па шэрагу гуманітарных спэцыяльнасьцяў. Менскія расцэнкі ні для каго не сакрэт: кантрольная каштуе $10, курсавая - $20-30, дыплём - $80-100, кандыдацкая дысэртацыя - каля $1.200 (у Маскве - да $2.500; дарэчы, там існуе цэлая фірма - "Москва-диплом").

Плынь кліентаў не спыняецца на працягу ўсяго году - замаўляюць з каледжаў і ВНУ, камэрцыйных і дзяржаўных, студэнты стацыянара і завочнікі. Вядома, самы вялікі наплыў - у летнюю і зімовую сэсіі: дыплёмы і курсавыя "гараць", расцэнкі падвышаюцца. Наагул, асаблівасьць маёй працы заключаецца ў тым, што яе трэба зрабіць вельмі хутка, таму што яна, як правіла, "патрэбная ўчора". Як зь веданьнем справы сьцьвярджаў адзін студэнт недзяржаўнай ВНУ, "кожная сэсія - гэта $70". Нармальны камэрцыйны падыход: пакуль яму пішуць нікому не патрэбныя працы, ён займаецца справай і зарабляе грошы. І наагул, асноўныя мае кліенты - гэта зусім не лянівыя і не дурныя студэнты, якія вучацца за бацькоўскія грошы (такіх меншасьць). Гэта людзі, якія ня хочуць марнаваць свой час і забіваць галаву ўсялякай лухтой. Вось сядзіць у Рагачове бухгальтар, жыве-працуе. Начальнік яму кажа: калі атрымаеш дыплём, будзеш галоўным бухгальтарам. Чалавек паступае на завочнае і за шэсьць год ня піша ніводнай працы. Навошта, тым болей па якой-небудзь філязофіі? Але ж у грамадзтве яшчэ моцныя "бацькоўскія" стэрэатыпы: чалавек хоць зь якім дыплёмам - сур'ёзны чалавек, а без дыплёма нікуды. Вось і зьвяртаюцца па мае паслугі.

Да гэтага студэнта штурхае сама сыстэма навучаньня, таму што яна ўяўляе сабой сыстэмную прафанацыю адукацыі. Гэтыя працы нікому не патрэбныя, і нават выкладчыкі іх як правіла не чытаюць. (Для студэнтаў, чые выкладчыкі чытаюць, ёсьць дадатковы сэрвіс - "дапрацоўка". Выкладчык робіць заўвагі, студэнт прыходзіць зь імі да мяне, я іх "прымаю да ведама", напрыклад, мяняю месцамі пару абзацаў. Рана ці позна выкладчык працу прымае.) Па-першае, ён нічога з гэтым студэнтам зрабіць ня зможа - праца ж напісаная, і студэнт яе нават чытаў (то бок фармальна ён "адчытаўся"). Па-другое, выкладчыкі таксама людзі - бываюць і лянівыя, і заматаныя, і ім ня надта карціць з такім заробкам ваяваць "за ідэю". На правах анэкдота: кажуць, што ў РТІ немаведама навошта пераправяралі мінулагоднія дыплёмы, і ў тэксьце аднаго зь іх знайшлі фразу накшталт: "А вось гэтую фінтыфлёвіну мы прыкруцім драўлянай просвай, таму што гэтую фігню ўсё роўна ніхто чытаць ня будзе". Маўляў, знайшлі таго былога студэнта і адабралі дыплём. А вось гэта ўжо насамрэч анэкдот.

Таму калі мне, напрыклад, трэба правесьці нейкае сацыялягічнае дасьледаваньне, я знаходжу ў інтэрнэце працу, скажам, студэнта маскоўскай ВНУ, які нібыта правёў параўнальны досьлед школьнікаў Масквы і Падмаскоўя па шэрагу парамэтраў. І мяняю школьнікаў Масквы на школьнікаў Менску, параўноўваючы іх са школьнікамі Менскай вобласьці. Дадзеныя па Рэспубліцы Башкартастан становяцца дадзенымі па РБ. Але няма ніякай гарантыі, што і тыя ў сваю чаргу не зьяўляліся дадзенымі па рэспубліцы Марый Эл. (Што праўда, калі тэма для мяне цікавая, я магу правесьці і ўласнае дасьледаваньне - але ў цэлым гэта нічога не мяняе.) Яшчэ можна зрабіць спасылку на аўтарэфэрат дысэртацыі Ерэванскага ўнівэрсытэту 1973 году і ўзяць у двукосьсе фразу зь іншай кніжкі. Наагул, калі ўявіць сабе ўсе напісаныя курсавыя і дыплёмы як цэлае, то гэта нагадвае сьнежны ком, які складаецца з кампіляцыяў кампіляцыяў. Крыніцы нельга высьветліць у прынцыпе. У кожнай галіне існуе каля дзясятку аўтарытэтаў, якія насамрэч нешта прыдумалі, астатнія ліюць ваду. Тая ж кандыдацкая дысэртацыя - таксама па сваім жанры праца кампіляцыйная. Кавалкі з розных кніжак зьліваюцца ў адзін тэкст. Увесь гэты "кісель" разбаўляецца markdown розьнымі "мы думаем" і "мы мяркуем". Думка чалавечая праяўляецца ў структуры працы, інакш кажучы - у прынцыпе кампіляцыі. Выгоцкі думаў вось так, Бажовіч - так, а вось "мы думаем" як Немаў - гэта і ёсьць нашая гіпотэза. У практычнай частцы - доказ "нашай думкі Немава" на аснове сацыялягічнага досьледу школьнікаў Башкартастана. Гіпотэза даказаная. Калі потым кандыдат навук выдае манаграфію, то наступны шэраг прац перадзіраецца зь яго кніжкі. У гэтым клубку губляюцца ўсе канцы. Самае сьмешнае, што пра гэта ведаюць усе - і студэнты, і выкладчыкі. І міністар адукацыі таксама ведае.

**Так што апроч зарабленьня грошай я яшчэ раблю добрую справу - дапамагаю людзям пазбавіцца ад непатрэбных ім праблемаў.** ■








У майго сябра ёсьць фішка. Пры кожнай сустрэчы ён заводзіць адну і тую ж песьню: "Дастала жыць на 10 баксаў стыпэндыі! Вось паеду ў Штаты, зараблю грошай, вярнуся казырным пацаном". Я выступаю ў амплюа аўтаадказчыка ("Да-а-а, нада валіць...") і бясплатнай камізэлькі для плаканьня. У апошнюю нашу сустрэчу я вырашыла крыху зьмяніць сцэнар і першая запыталася: "Ну дык калі ты ўжо зьедзеш?" Высьветлілася, што ён нават не цікавіўся, як гэта зрабіць НА ПРАКТЫЦЫ.

# ШТО ТАКОЕ СЫНДРОМ ЖЗ
## І ЯК ЗЬ ІМ ЗМАГАЦЦА

тэкст: Маша Раневіч

### Крок першы: СТРАТЭГІЧНАЕ ПЛЯНАВАНЬНЕ

Недалёкія ад псыхалёгіі людзі называюць гэта Сындромам Жалезнай Заслоны. Здаецца, кардоны ўсе даўно абваліліся, нават Бэрлінскую сьцяну разьнесьлі па цаглінцы.
Але чалавека, якому зь дзіцячага садку "вешалі фанцікі" пра сьветлую сацыялістычную будучыню, хапае хіба што на пакупку ваўчэра ў Рэч Паспалітую. Калі ж паўстае пытаньне пра тое, каб самастойна выбрацца некуды далей, мы адразу апынаемся ў скуры недавучанага балеруна - "нешта мяшае". Сындром ЖЗ сядзіць у нас саміх, што называецца, inside. Таму давай выпрацоўваць тактыку барацьбы зь ім.
Першы этап заключаецца ў правільнай пастаноўцы мэтаў на сярэднюю пэрспэктыву. Просьценькая задачка: што ты будзеш рабіць наступным летам? "Гарбаціцца" на лецішчы, абіваць яблыкі ў бабулі на хутары, прамотваць грошы ў Анапе?.. Калі ж падумаць (проста падумаць!) пра ўсё загадзя, можна лёгка спалучыць прыемнае з карысным. Плюс уражаньні на два гады наперад. Зацікавіўся? Тады робім

### крок другі: РАЗЬВЕДКА

Тут, апроч мазгоў, нам спатрэбяцца яшчэ й пальчыкі (тыя, якія на руках). Сядаем на тэлефон і набіраем нумар Цэнтру Культурных абменаў ЗАТ "Экспа-Трэвэл". Чаму менавіта "Экспа-Трэвэл"? Па-першае, гэта іх профіль - даваць студэнтам і моладзі магчымасьць прыехаць у ЗША і краіны Заходняй Эўропы падчас вакацыяў, каб зарабіць грошай і павандраваць па краіне. Па-другое, кампанія надзейная: "Экспа-Трэвэл" зьяўляецца прадстаўніком амэрыканскай Council-Exchanges (CIEE). Да таго ж, гэта адзіны ў Беларусі паўнамоцны сябра ве-е-льмі аўтарытэтнай у сьвеце арганізацыі па міжнародным абмене студэнтаў FIYTO. Па-трэцяе, лягічна ў нашай сытуацыі зьвяртацца да людзей дасьведчаных. А "Экспа-Трэвэл" працуе на беларускім рынку зь сярэдзіны 90-х. Вядома, ты можаш шукаць працу за мяжой самастойна. А можаш даверыцца "Экспа-Трэвэлу", які ўжо мае сталыя сувязі з працадаўцамі (сьпіс апошніх, дарэчы, у хуткім часе будзе вывешаны на адмысловым сайце).
Ну вось, патэлефанавалі. Прыемны Жаночы Голас прызначае "стрэлку". Мама, што рабіць?!! Вядома, можна адмовіцца, але ж мы з табой дарослыя пацаны/дзяўчаты і нічым - апроч сэсіі і пенкі на кіпячоным малацэ - нас у гэтым жыцьці не запужаеш! Зьбіраем волю ў кулак і робім

### крок трэці: СТРЭЛКА

Апроч пералічаных вышэй анатамічных прыладаў, тут нам спатрэбіцца т.зв. "пятая кропка". Адрываем яе ад канапы і перамяшчаем на Сурганава 47. Для першай сустрэчы гэтага можа быць цалкам дастаткова, дый потым табе не давядзецца лётаць з разнастайнымі паперкамі па інстанцыях. "Экспа-Трэвэл" паклапоціцца пра ўсё сам. Ты толькі своечасова прынясеш пашпарт і з дапамогай усё тых жа пальчыкаў запоўніш анкету (нават узор афармленьня дакумэнтаў пакладуць перад тваім носам).
Галоўнае - падчас першай сустрэчы ты здабудзеш ІНФАРМАЦЫЮ. Сёлета "Экспа-Трэвэл" прапануе наступныя праграмы:

- праца і падарожжа ў ЗША (Work and Travel in the USA) - найбольш папулярная і разнаплянавая: як у працы, так і ў актыўным адпачынку;
- стажыроўка ў ЗША па спэцыяльнасьці (Internship USA);
- акадэмічны год у ЗША (для школьнікаў) - вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца. Але як вучыцца!
- праца ў галіне сельскай гаспадаркі ў Заходняй Эўропе (Agriculture Work Experience Program) - самая прыбытковая па грашах, ня тое што ў бабулі на хутары;
- праца ў летніках ЗША (International Camp Counselors USA) - для энэргічных людзей, якія не баяцца монстраў-тынэйджэраў, бо і самі - такія ж самыя;
- праца няні ў замежных сем'ях (Au Pair Programs) - плюс бясплатныя курсы замежнай мовы.

### крок трэці: АТРЫМЛІВАЕМ ГАРАНТЫІ І БОНУСЫ

ЗАТ "Экспа-Трэвэл" супрацоўнічае зь "БелДзяржСтрахам". Таму ў выпадку адмовы ў візе (а раптам што якое!) у пятнаццацідзённы тэрмін ты атрымаеш назад укладзеныя грошы. Страхавы поліс прадугледжвае мэдыцынскае абслугоўваньне на працягу ўсяго тэрміну дзеяньня праграмы.
Студэнт-кліент ведае ўсё і адразу: ад месца жыхарства да сумы, якую будзе атрымліваць. Заробак за гадзіну вагаецца ад $5 да 15. Такім чынам, пры працы ў 40 гадзінаў на тыдзень выдаткі акупаюцца ўжо праз месяц-паўтара. Жытло, харчаваньне і падаткі складаюць ня больш за 25%. Працоўны дзень нелімітаваны, і пасьля восьмай гадзіны працы аплата падымаецца ў паўтара разы. Было б жаданьне!
Зь лістапада 2002 г. "Экспа-Трэвэл" зьяўляецца афіцыйным прадстаўніком кампаніі "STA Travel" на тэрыторыі РБ і ажыцьцяўляе продаж авіяквіткоў па спэцыяльных студэнцкіх тарыфах.
Па прыбыцьці на месца для цябе будуць арганізаваныя кансультацыі і падтрымка 24 гадзіны ў суткі па гарачай лініі (бясплатна). Табе адразу выдадуць Міжнародны студэнцкі білет ISIC і адмысловую тэлефонную картку - будзеш тэлефанаваць "адтуль" на радзіму, каб бацькі спакойна спалі, а сябры не расслабляліся.
Што яшчэ? Для абанэнтаў Velcom працуе гарачая лінія 121. Удзельнікі праграмы выйграюць прызы.



startravel belarus
Centre For Cultural Exchanges
ЗАО "Экспо-Трэвэл"
Центр Культурных Обменов
VELCOM
В РОЗЫСКЕ!
?
?
СТУДЕНТЫ
ДЛЯ РАБОТЫ ЛЕТОМ
В США!
прамая гарадзкая лінія 086
Гарачая лінія для абанентаў VELCOM 121
вул. СУРГАНАВА 47, офіс 8
тэл.: 202-00-81, 231-16-93, 232-50-28
www.gcce.org www.startravel.by
Ліцэнзія №925 выд. Камітэтам па міграцыі пры МП РБ ад 11.12.2000г. -2005г.

### крок чацьверты: УКЛАДАЕМ ГРОШЫ Ў СВАЮ СЬВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ

Кошт у кожнай праграмы свой. Не зьмяняецца кошт страхоўкі за адмову ($53), консульскі збор за візу ($100) і кошт квітка (у залежнасьці ад краіны - ад $350 да 550). Праверана: гэта самыя нізкія кошты ў РБ за такога кшталту паслугі. У суме атрымліваецца на $200-250 таньней, чым у іншых кампаніях.

### і нарэшце...

У 2001 г. з 400 удзельнікаў праграмаў 77% юнакоў і дзяўчатаў (400/100x77=падлічы сам) выправіліся працаваць за мяжу. Паводле статыстыкі, лягчэй за ўсё атрымаць візу студэнтам 2 і 3 курсаў, прычым калі яны едуць упершыню. Але і ў іншых шанцы вельмі нават някепскія.
Адзінае, што раяць супрацоўнікі "Экспа-Трэвэл" тым, хто ад'яжджае - не зацыкліваецца на працы. З 4-5 месяцаў дзеяньня візы апошні - для падарожжаў. Добра было б гэтым скарыстацца. Абмен жа ўсё-ткі КУЛЬ-ТУР-НЫ.

### P.S. Deadline

Лепей за ўсё аформіць дакумэнты ў сьнежні-студзені. Магчыма, тэрмін будзе працягнуты, але чым пазьней ты падаеш паперы, тым даўжэй чакаеш вынікаў.

*220100, Беларусь, г. Менск*
*вул. Сурганава, 47, офіс 7 і 8*
*тэл.: (017) 202-00-81, 231-16-93, 232-50-28, 232-61-83*
*www.gcce.org*
*www.startravel.by*
*Гарачая лінія для абанэнтаў VELCOM - 121*
*Прамая гарадзкая лінія - 086*

Самые низкие тарифы в городе
НАСТРОЙСЯ НА
ВЕСТКОМ
ПЕЙДЖИНГОВАЯ КОМПАНИЯ
206 75 75
ТЕЛЕФОН ОПЕРАТОРА

ВЫБЕРЫ тры ПАДАРУНКІ І ВЫЙГРАЙ тур
"АкваПарк+Вялічка+Кракаў+Варшава"

НАВАГОДНЯЯ ПРАПАНОВА

зь 1 па 31 СЬНЕЖНЯ, падрабязнасьці на WWW.DAASCOM.COM

DaaS computers
269-10-50, 269-10-99
285-61-71, 266-95-61

DURON 900MHz/128Mb/20Gb/FDD/3D VIDEO64 Mb/Sound/LAN/ATX.........229
CELERON 1100MHz/128Mb/20Gb/FDD/3D Video/Sound/ATX.........................242
DURON 900MHz/128Mb/20Gb/FDD/TNT 16Mb/Sound/ATX...........................253
DURON 1300MHz/128Mb/20Gb/FDD/GeForce 32Mb/Sound/ATX..................288
CELERON 1400MHz/128Mb/20Gb/FDD/GeForce 32Mb/Sound/ATX.......................305
CELERON 1700MHz/256Mb/40Gb/FDD/CD-ROM/GeForce 64Mb/Sound/ATX........356
ATHLON 1800xp/256 Mb/40Gb/FDD/CD-ROM/GeForce 64Mb/Sound/ATX..........386
P IV 2000MHz/256 Mb/40Gb/FDD/CD-ROM/GeForce 64Mb /Sound/ATX..............478
ATHLON 2100xp/256 DDR/40Gb/FDD/CD-ROM/GeForce 4 64Mb/Sound/ATX.....489
P IV 2400MHz/256 DDR/60Gb 7200/FDD/CD-ROM/GeForce 4 64Mb /Sound/ATX...609

Кампутары ўкамплектаваныя клявіятурай, мышкай, дыванком, калёнкамі, пратэставаныя і ...
ГАТОВЫЯ ДА ПРАЦЫ! Гарантыя да 36мес. Дастаўка і ўстаноўка. ЗЬНІЖКІ І ПАДАРУНКІ!!!

CPU Duron/ Celeron/ Athlon.............28+
MB GigaByte/ Chaintech/ EpoX..........57+
SDRAM & DDR NCP/ HY/ SEC..........19+
SVGA TNT/GeForce/ATI...................20+
CD-ROM/RW Teac/ Nec/ Acer/ LG....22+
DVD-ROM Nec/Toshiba/BTC............48+
HDD Seagate/ Maxtor/ IBM/ WD.......69+
Case ATX 250/300/350W..................20+
Monitor 15" 17" 19" 21"..................125+
Printer Lexmark Z25/Z45/Z55/Z65...45+
Калёнкі Genius/ Typhoon.................5+
Картрыджы Lexmark/ Epson/ HP.....6+
Запраўкі Lexmark/HP/Canon............3+

ЛІЦЭНЗІЯ №17509 АД 12/09/2000г.
ЛІЦЭНЗІЯ №2613 АД 14.06.02



CREON
http://www.adcreon.com

9-11 красавіка 2003 году
Студэнцкі Фэстываль Рэклямы

Для маладых, актыўных і таленавітых...
Для будучых спэцыялістаў рэклямнага сьвету...

5 намінацыяў
- аўдыё-рэкляма
- відэа-рэкляма
- вонкавая рэкляма
- друкаваная рэкляма
- інтэрнэт-рэкляма

У праграме:
- Конкурс працаў
- Майстар-клясы
- Цырымонія ўзнагароджаньня
- Дыскусіі рэклямшчыкаў

Чакаем вашых заявак. Падрабязнасьці на сайце http://www.adcreon.com





TUT.BY ЦЕНТР ЭЛЕКТРОННОГО БИЗНЕСА


elife media
http://media.elife.by





ОЛИМП

Продается все, покупается лучшее!



ВЦ "ОЛИМП", г.Менск, вул.Я.Коласа, 3 т.239-33-35